—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
20
САКАВІКА
1992 г.
№ 12 (3630)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)





**Магутны Божа! Уладар сусветаў,**
**Вялізных сонцаў і сэрц малых...**
**Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай**
**Краіну нашу і наш народ.**

**Наталля АРСЕННЕВА.**

Фота Аляксея МАЦЮША.

ПАМЯРКУЕМ

# ЛЯМАНТ НА РАЗВАЛІНАХ ДЗЯРЖАВЫ

Што літаратары народ звышэмацыянальны, усім вядома. На пісьменніцкіх сходах я пачынаю лічыць байкай наяўнасць балцкага субстрату ў нашым этнасе. Ды Бог з ім, з субстратам, я пра іншае гаворку павяду. Пра эмацыянальныя перахлёсты ў расійскай, пэўнага кірунку, прэсе. Ні мору няма, ні вайны, ні землятрусу — усяго толькі змена грамадска-эканамічнай фармацыі, а там скразной тэмай праходзіць наступная: як ратаваць матухну Расію. Заўважым, што ніхто не браўся ратаваць яе тады, калі бязлюдзела, выраджалася руская вёска, калі праядала кіруючыя пласты ржа прадажнасці, калі многія з заводаў і фабрык працавалі на дарэвалюцыйным абсталяванні, затое набіраў моцы крывасмок ВПК.

Сусветна вядомы дысідэнт А. Салжаніцын на зары перабудовы прапаноўваў Расію «обустраивать», у чым, на мой погляд, цалкам меў рацыю. Наладзіць жыццё, упарадкаваць, прывесці да агульналюдской нормы — гэта і ёсць адзіна магчымае «ратаванне» на цяперашні перыяд.

Нацыянал - патрыятычная гісторыя дасягнула свайго піку падчас афіцыйнага распаду СССР. Вось характэрныя загалоўкі з той жа «ЛР»: «Фарс на развалинах державы», «Лукавство расчленителей (письмо на Украину)», «Гибель флота предвещает траур нации», «Развал СССР и русский вопрос»... Крах, катастрофа, гібель... Апакаліпсіс, адным словам, канец свету. К. Мяло ў апошнім з названых матэрыялаў нават параўноўвае свой народ са зведаўшым няўдзячнасць каралём Лірам — маўляў, той жа духоўны вопыт. І падсумоўвае: «завершилась эпоха русского самопожертвования».

Адышлі краіны Балтыі, аддаляюцца, адрываюцца ментальна Украіна, Малдова, Беларусь — і баліць, крывавіць душа выразніка дум рускага народа — інтэлігента. У адным з тэледыялогаў А. Разанава неяк прагучала: такі боль, быццам руку ці нагу па-жывому адцінаюць.

Задумаемся: адкуль гэты нутраны, ірацыянальны боль? Ці не лічыў ён, выразнік дум, усё дыпламатычна падгорнутае і сілай далучанае за апошнія трыста год уласна Расіяй? «Наша адбіраюць», як і «нашых б'юць», — рэч, мабыць, невыносная для рускага характару.

Як прызнае ўжо згаданая К. Мяло, «русские до 1917 г. действительно были главным субъектом империи». А што, пазней не былі? Хто ж тады быў — «савецкі народ»? Калі нацыянальныя інтарэсы не афішуюцца, гэта не значыць, што яны занядбаны. Невыпадкова ўспомнілі змізарнелыя продкі славянафілаў пра агульныя славянскія карані. «Па жывому рэжуць! Каравул!» — крычаць яны, забываючы, што трымаць **жывое** пад жалезнай пятой — не меншы грэх перад людской супольнасцю.

Дзіўная рэч! Адны «рвуць кіпці» ў жаданні стаць самастойнымі і самім ладзіць жыццё, а другія з лямантам кідаюцца ўслед: куды вы? Мы вас любім!.. Забі мяне гром, калі такая палкая любоў не мае пад сабой нейкага падсвядомага разліку. Быць з вамі — для чаго? Каб вы звыкла адчувалі сваю перавагу?

Народ, які сам сябе назваў вялікім, мог бы з большай годнасцю ўспрымаць разбяганне акраін і крушэнне сваіх гістарычных міфаў. Вялікі народ, у маім разуменні, не павінен мець крэўнай патрэбы ў падпітцы сваёй самапавагі за кошт іншых народаў. А паколькі за ўсё трэба плаціць, у тым ліку за прыемнае сэрцу пачуццё «звышсамасці», то Расія сапраўды, напэўна, раздавала, разбазарвала свае прыродныя багацці. Гэта і называецца сёння «самаахвярнасцю». А на самай справе звычайная няпісаная здзелка: вы нас слухайцеся, схіляйцеся перад намі, а мы вас у крыўдзе не пакінем, падкінем тое-сёе на пражыццё... І падкідалі — не толькі суседзям, аж на Кубу, у Афрыку, у Азію! Шчодра плацілі кампартыям усяго свету — за адданасць, і, заплаціўшы, заказвалі музыку.

Скажаце, што нацыянальная ідэя тут ні пры чым, што справа ў камуністычнай ідэалогіі? А як жа тады быць з месіянствам? Здаецца, яно ўласціва зусім нямногім народам...

Музыку-то заказалі, але ў адзіноце чамусьці не скачацца. Вось адкуль ярасць палітыкаў і кпіны задорнавых, вось адкуль галашэнні і праклёны ў прэсе. «Адчуванне крызісу»... Дакладна сказана. Гэта так няпроста і пакутліва для народа — усвядоміць, і на філасофскім, і на побытавым узроўнях, што пры ўсёй сваёй адметнасці ён толькі адзін з многіх народаў...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**



## СКАРБЫ ЛІТАРАТУРЫ— ДЗЕЦЯМ

**У выдавецтве «Юнацтва» здадзены ў вытворчасць апошні том унікальнай 16-томнай «Бібліятэкі дзіцячай літаратуры» народаў тых рэспублік, якія ўваходзілі ў СССР. Вядома, хоць Саюз распаўся і не ўсе рэспублікі, стаўшы незалежнымі дзяржавамі, аб'ядналіся ў СНД, літаратура ўсіх народаў, як мастацтва, не мае межаў. І ведаць духоўны набытак кожнага народа, значыць узбагаціць сябе, сваё мастацтва.**

**Пазнаёміць юных чытачоў Беларусі з узорамі дзіцячай літаратуры розных народаў — менавіта такая мэта згаданай бібліятэкі. Апошняя кніга прысвечана шматнацыянальнай расійскай літаратуры. А да гэтага чытачы атрымалі беларускі том «Вяснянка», украінскі — «Ад круч дняпроўскіх», літоўскі — «Бурштынавыя пацеркі», узбекскі — «Вясёлка над арыкам», грузінскі — «Дружная з сонцам», малдаўскі — «Гронкі радасці», латышскі «Песня Даўгавы», армянскі — «Зоры Севана», эстонскі — «Скарбы старога Томаса», казахскі — «Залаты каравай», таджыкскі — «Крыніца Паміра», туркменскі — «Кветкі Каракумаў», азербайджанскі — «Вышкі над морам», кіргізскі — «Вецер з гор».**

**Упершыню ў гісторыі беларускага кнігадрукавання «Юнацтва» распачало і выпуск 10-томнай «Бібліятэкі беларускай дзіцячай літаратуры».**

**Здадзены ў вытворчасць і першыя тры тамы (таксама унікальнай) «Бібліятэкі замежнай дзіцячай літаратуры», якая выйдзе ў 30-ці кнігах на беларускай мове.**

**Міхась ПАЗНЯКОЎ,**
**галоўны рэдактар выдавецтва «Юнацтва».**

З ПОШТЫ ТЫДНЯ

## Будуць вернікі— будзе і царква

Гады тры таму Украіна сустракала, таксама як і мы сёння, свайго аўтакефальнага мітрапаліта Мсціслава. У аэрапорце сабралася, паводле газет, амаль сто тысяч суайчыннікаў. Праз колькі дзён адбылася ўрачыстая багаслужба ў Сафійскім саборы, мітрапаліт Мсціслаў быў агалошаны патрыярхам Праваслаўнае Царквы Украіны...

Прыезд уладыкі Мікалая звонку выглядаў значна сціплей. Сустракаючых было каля 30 чалавек, багаслужбу ўладыка правіў у невялічкай дамовай царкве Усіх Беларускіх Святых Беларускага Экзархата.

Сёй-той, параўноўваючы візіты двух мітрапалітаў, пачне рабіць высновы, што, маўляў, усюды мы, беларусы, апошнія, нават тут, у адбудове сваёй нацыянальнай царквы. Але я рызыкнуў бы выказаць іншую думку: мы саміх сябе значна недаацэньваем. Візіт уладыкі Мікалая з усёй відавочнасцю адлюстраваў каштоўнейшыя рысы беларускае душы: талерантнасць, ураўнаважанасць, памяркоўнасць. З прэсы вядома, як завіравала рэлігійнае жыццё на Украіне пасля таго, як народ павялі ў розныя бакі два павадыры: Філарэт Кіеўскі і Галіцкі і мітрапаліт Мсціслаў. Брат паўстаў супраць брата, замест царкоўнага прымірэння ўзнік царкоўны антаганізм...

Жахліва ўявіць сабе, каб нешта падобнае ўзнікла ў нас. Нашыя два ўладыкі (мітрапаліт Філарэт і мітрапаліт Мікалай) паказалі ўсім нам, грэшным, як найскладанейшыя вузлы гісторыі можна разблытваць спакойна, без голасу і надрыву. Можна ўявіць сабе страшэнны ўціск цяперашняй палітычнай нервовасці і здагадацца, што кожны з мітрапалітаў адным неасцярожным слоўкам мог узвесці мур крыўды і недаверу паміж вернікамі беларускай эміграцыі і Бацькаўшчыны.

Наведаўшы нашае Праваслаўнае Брацтва трох Віленскіх Пакутнікаў пры Менскім Св. Петра-Паўлаўскім саборы, Уладыка Мікалай цешыўся, што трэцяя частка прысутных былі людзі маладога веку, студэнты і школьнікі. Вам, моладзі, казаў ён, трэба найперш ісці ў архівы і шукаць праўду пра беларускую гісторыю і беларускую Царкву. Вы можаце дапамагчы расплюшчыць вочы тым беларусам, хто не бачыў і не хацеў бачыць сваёй Веры і сваёй Бацькаўшчыны.

Пры кожнай сустрэчы з людзьмі Уладыка Мікалай падкрэсліваў: вера — гэта душа народа. Той, хто валодае вераю народа, той валодае і ягонай душою. Беларуская душа доўга не была вольнай, ёю вельмі доўгі час валодалі і карысталіся суседзі з Усходу і Захаду. Але прыйшоў нарэшце час вярнуцца ёй «да самой сябе», у свой дом, які трэба яшчэ выбудаваць.

Такім чынам, усё выказана: моладзь і інтэлігенцыя мусяць адчуць, што будучае нашага народа фармуецца сёння і цяпер. У Звароце да суайчыннікаў, які падпісалі ўладыка Мікалай і айцец Георгій Латушка, выразна акрэслена думка аб неабходнасці ўзнаўлення на Беларусі Брацтваў. Брацтвы цяпер могуць стаць тымі лапікамі, выспачкамі, дзе людзі пачнуць вяртацца да свайго нармальнага богапажаданага стану. Акрамя таго, Праваслаўныя Брацтвы маглі б аб'яднаць тых беларускамоўных вернікаў, хто не збіраецца выракацца сваёй веры і шчыра хацеў бы дапамагаць святарам засвойваць беларускую мову і гісторыю. Калі будуць беларускія вернікі, будзе, бясспрэчна, і Беларуская Царква.

Прыезд уладыкі Мікалая падштурхнуў нас, вернікаў, да стваральнае працы. Спадзяюся, што рэдакцыя «ЛіМа» не адмовіць нашаму брацтву інфармаваць чытачоў аб справах Брацтва. Усім, хто жадае наладзіць з намі сувязь, падаём свае каардынаты: **Праваслаўнае Брацтва трох Віленскіх Пакутнікаў, 220050 Менск-50 а/с 275, тэл.: 39-55-91, 55-56-16, 58-92-42.**

**Мікола МАТРУНЧЫК,**
**старшыня Дзейснае Рады Брацтва.**

АДГАЛОСКІ

## АБРЭВІЯТУРА ПАМЯТНАЯ...

**На інфармацыйным стэндзе каля польскага консульства звычайна можна пабачыць фотаздымкі, якія апавядаюць пра найбольш важныя падзеі ў жыцці суседняй краіны. Відаць, на думку супрацоўнікаў дыпламатычнага прадстаўніцтва Польшчы ў Мінску, і 50-годдзе ўтварэння Арміі Краёвай (АК) — важная падзея не толькі для польскай дзяржавы, але і вартая таго, каб з нагоды юбілею падзяліцца радасцю з суседзямі (у прыватнасці, з беларусамі), запрасіць іх адсвяткаваць угодкі АК разам з палякамі. Бо інакш дзеля чаго размяшчаць на стэндзе інфармацыю пра згаданы юбілей? Тую аналічнасць, што на Беларусі да Арміі Краёвай ставяцца інакш, чым у Польшчы, што ў беларусаў да акаўцаў свае адносіны, у Варшаве могуць і не ведаць. Але польскім дыпламатам у Мінску, чыя служба мае мэтай наладжванне добрых стасункаў паміж дзвюма краінамі, ведаць гэта трэба.**

**Вось на стэндзе — фотаздымкі кіраўнікоў Арміі Краевай, эпізоды вайсковага побыту і баявых дзеянняў. Некаторыя здымкі маюць «крэсавую» геаграфічную прывязку: Ковель, Віленшчына. З друкаванага тэксту можна даведацца, якія страты нанесла АК германскаму вермахту, што ў Польскай Народнай Рэспубліцы камуністычныя ўлады акаўцаў не шанавалі, ладзілі над імі суды, а сяго-таго нават прыгаворвалі да смяротнага пакарання.**

**Але калі ўжо пачынаць гаворку пра Армію Краёву, дык трэба гаварыць усю праўду, ці ўвогуле не кранаць гэтую тэму. Армія Краёва ўдзельнічала ў Варшаўскім паўстанні, знішчыла вялікую колькасць гітлераўцаў і іхняй баявой тэхнікі? Што ж, ніхто гэта не падвяргае сумненню. Ну, а колькі беларускіх вёсак, часам разам з жыхарамі, было спалена «жаўнерамі» з Арміі Краёвай? Колькі гэтыя «барацьбіты за незалежную Польшчу» нарабавалі дабра ў мірных жыхароў? Колькі знішчылі праваслаўных храмаў, расстралялі і пакалечылі ні ў чым невінаватых людзей толькі за тое, што яны гаварылі на беларускай мове і маліліся Богу ў царкве, а не ў касцёле?**

**Падабаецца гэта ці не нашым бліжэйшым суседзям на захадзе, але ў нас і ў іх рознае стаўленне да пэўных гістарычных падзей і з'яў: да Пілсудскага і пілсудчыны, да бальшавіцка-польскай змовы ў Рызе ў 1921 годзе, да 17 верасня 1939 года і да «ўдакладнення мяжы» ў 1944 годзе (калі да Польшчы адышла значная тэрыторыя Беларусі). А што датычыць АК, дык гэтая абрэвіятура выклікае ў свядомасці беларусаў, скажам проста, зусім не лепшыя ўспаміны.**

**Дык дзеля чаго гэтая фотавыстава? Гэта неабачлівая абраза беларусаў ці спроба маральна падтрымаць яшчэ жывых «ветэранаў» АК, якія, асеўшы пасля вайны на Беларусі, былі вымушаны (па зразумелых прычынах) не высоўвацца на святло з некаторымі фактамі сваёй біяграфіі? А можа, гэта своеасаблівая разведка: як зрэагуе мінская грамадскасць? Думаю, невыпадкова некалькі тыдняў назад на беларускай тэлевізіі ў праграме «НІКа» прагучала паведамленне, што нейкі грамадзянін Польшчы шукае свайго сваяка, былога афіцэра Арміі Краёвай, які, мабыць, зараз жыве ў Мінску. Гэта яшчэ адзін «пробны каменьчык»: пойдзе абвестка ў эфір ці не. Колькі год назад шукальнік не стаў бы афішаваць такое ваеннае мінулае сваяка. А зараз што, нехта працуе над стварэннем прывабнага вобраза Арміі Краёвай?**

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

# Акт, скіраваны ў будучыню

## У 74-ыя ўгодкі абвяшчэння незалежнасці БНР

9 САКАВІКА 1918 года Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага З'езда выдаў другую Устаўную Грамату да народаў Беларусі.

Так і хочацца сказаць: запознены акт. Як на маё разуменне, яго трэба было выдаць адразу пасля ўцёкаў бальшавіцкіх заваадатараў з Менска ў Смаленск — 20 лютага. Тады, нагадаю, была выдадзена першая Устаўная Грамата і створаны першы Урад Беларусі — Народны Сакратарыят. Урад быў створаны, але Беларусь не была абвешчана дзяржавай. Немцы, уварваўшыся 21 лютага ў Менск, маглі сарваць бел-чырвона-белы сцяг, разагнаць службоўцаў Народнага Сакратарыята, забраць яго касу. Зноў, засеўшы з бальшавікамі ў Берасці, яны маглі кроіць Беларусь як захочацца.

Бальшавікам патрэбен быў мір. За любую цану. Кантрыбуцыя? Калі ласка. Германіі трэба збожжа? Калі ласка. Вось чым тлумачыцца харчовая праблема ў Расіі 1918 года. Гэтым тлумачыцца і ўвядзенне харчовае развёрсткі, стварэнне камбедаў і харчовых атрадаў. Але сёе-тое бальшавікі выгадалі. Юрыдычна страціўшы правы на Летуву ды Украіну, якія абвясцілі сябе самастойнымі дзяржавамі да Берасцейскага міру, яны захавалі «беларускі калідор». Разлічваючы на аслабленне Нямеччыны, на рэвалюцыю ў Германіі, яны меліся эфектыўна выкарыстаць гэты калідор для экспарту рэвалюцыі, а пакуль што пакідалі нашу краіну ў якасці закладу пад кантрыбуцыю. Немцы ж абавязаліся не прызнаваць ніякіх новых дзяржаў, абвешчаных пасля Берасцейскага трактату.

Вось і думаю: што было б, калі б Беларусь была абвешчана дзяржавай 20 лютага 1918 года — да падпісання Берасцейскага міру?

Берасцейскі трактат прымусіў Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага З'езда абвясціць нарэшце Беларусь Народнаю Рэспублікаю.

Акт 9 сакавіка мае гістарычнае значэнне і таму, што айцы БНР — а гэта пераважна беларускія сацыялісты — сфармулявалі ў другой Устаўнай Грамаце ідэал беларускай дзяржаўнасці. Беларусь бачылася ім дэмакратычнаю, прававою, сацыяльнаю Рэспублікаю — з усеагульным, роўным, прамым і прапарцыянальным выбарчым правам, са свабодаю слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў, з безумоўнаю свабодаю сумлення, недатыкальнасцю асобы і памяшкання, з роўнасцю ўсіх народаў, з забеспячэннем права на зямлю тым, хто на ёй працуе, з нацыяналізаванымі лясамі, азёрамі і нетрамі зямлі.

І ўсё ж другая Устаўная Грамата была кампрамісным дакументам. Беларусь абвешчана Народнаю Рэспублікаю, але нічога не сказана пра яе дачыненні з Расіяю, з іншымі дзяржавамі. Гэтаму факту ёсць простае тлумачэнне: у стане беларускіх сацыялістаў былі моцныя аўтанамісцкія настроі. Да таго ж многія сябры Выканаўчага Камітэта Рады Усебеларускага З'езда і Народнага Сакратарыята паказалі сябе законнікамі. Як вядома, Усебеларускі З'езд выказаўся за аўтаномію Беларусі ў складзе Расіі. Дык ці меў права Выканкам Рады Усебеларускага З'езда парушыць яго волю, абвясціць краіну незалежнаю дзяржавай?

Аўтанамісцкія настроі былі моцныя. Але былі й іншыя настроі.

Пасля таго, як старшыня ЦК Беларускай Сацыялістычнай Грамады Язэп Дыла перакінуўся на бок нацыянал-бальшавікоў Алеся Чарвякова ды Зміцера Жылуновіча, кіраўніцтва партыі ўзначалілі два ягоныя таварышы (намеснікі) — Алесь Гарун ды Аркадзь Смоліч. У гэтым тандэме галоўную ролю іграў А. Смоліч, народны сакратар асветы, аграном, эканаміст, географ, тэарэтык сацыял-дэмакратыі (пазней ён напіша праект праграмы Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі). Незалежніку А. Смолічу ды ягоным аднадумцам патрэбная была падтрымка. І Смоліч звярнуўся да тых, хто быў яго настаўнікамі, хто яго, васемнаццацігадовага юнака, прыняў у 1909 годзе ў падпольную Беларускую Сацыялістычную Грамаду, — да Івана й Антона Луцкевічаў.

У той самы дзень, калі была прынятая другая Устаўная Грамата, Аркадзь Смоліч напісаў ліст да Івана Луцкевіча. Ён паведамляў, што ў Менску, у Выканкаме Рады Усебеларускага З'езда і Народным Сакратарыяце, «людзей наогул шмат, кіраўнікоў палітычных, але добра сьвядомых няма».

«Добра сьвядомых», паводле А. Смоліча, — тыя, хто стаіць за дзяржаўную незалежнасць Беларусі.

Смоліч надта змрочна маляваў сітуацыю. Незалежнікі ў Выканкаме Рады Усебеларускага З'езда і ў Народным Сакратарыяце былі. 9 сакавіка яны складалі пакуль што меншасць. Але сам ход гісторыі ўмацоўваў іх пазіцыі. Усё больш і больш беларускіх дзеячаў пераконваліся ў цынічнасці ўрада Расіі, у якім дамінавалі бальшавікі (левыя эсэры выступалі супраць Берасцейскага міру).

9 сакавіка вышэйшым заканадаўчым органам Рэспублікі да склікання Устаноўчага Сойма Рэспублікі была абвешчана Рада Усебеларускага З'езда, дапоўненая прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў. На пасяджэнні Рады 18 сакавіка незалежнікі дамагліся, каб у яе склад былі кааптаваныя прадстаўнікі Віленскай Беларускай Рады — Іван ды Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі... Ці было гэта вынікам перапіскі паміж А. Смолічам ды І. Луцкевічам? Думаю, пытанне рытарычнае. Дый хто мог запярэчыць ідэі збірання беларускіх сіл? Хто мог запярэчыць кааптацыі ў Раду Рэспублікі фактычных лідэраў БСГ? Хіба што адзінкі.

Смоліч ведаў, у каго шукаць падтрымкі. Віленскія дзеячы ў цяжкіх і пакутлівых пошуках беларускага шляху, у спрэчках і нават канфліктах паміж сабою прыйшлі ў студзені 1918 года да згоды, што Беларусь павінна стаць незалежнаю дзяржаваю, якая ахоплівала б усе землі, дзе беларусы складаюць бальшыню. І Антон Луцкевіч, і Вацлаў Ластоўскі даўно выпрацавалі цвярозы погляд на Польшчу і Расію: і заходні, і ўсходні суседзі перш за ўсё рупіліся, каб асіміляваць беларусаў. У Луцкевіча было спадзяванне, што ўдасца стварыць беларуска-летувіскую дзяржаву з дзвюма аўтаномнымі тэрыторыямі. Але гэтая надзея знікла пасля таго, як Летувіская Тарыба на пачатку 1917 года заявіла аб жаданні далучыць да будучай дзяржавы «гістарычную Літву» з Беластокам, Бельскам, Шчучынам, Мастамі, Маладзечнам, Мядзелам, Паставамі ды Браславам. З гэтымі сваімі дамаганнямі летувіскія дзеячы кідаліся то да Часовага ўрада Расіі, то да ўрада Нямеччыны. Не апраўдаліся й спадзяванні Вацлава Ластоўскага на беларуска-украінскі саюз: кіеўская Рада хацела распаўсюдзіць свой уплыў на беларускія тэрыторыі. Антон Луцкевіч не верыць і немцам. За гады акупацыі ён меў магчымасць пераканацца ў двудушнасці кайзераўскага ўрада. (Потым, у сваім дзённіку, ён назаве нямецкую палітыку ў дачыненні да беларусаў подлаю.) Яго погляд на немцаў і суседзяў быў цалкам рэалістычны: пройдзе няшмат часу, і Германія перадасць значную частку беларускіх абшараў пад кантроль Украіны й Летувы. Цалкам быў рэалістычны погляд і на Польшчу з Расіяй. У той час, як бальшавікі таргаваліся з Нямеччынай, Луцкевіч сачыў за польскімі манеўрамі. З польскіх газет ён перапісаў у свой блакнот такую сентэнцыю: бальшавіцкі ўрад Расіі з'яўляецца якраз такім урадам, з якім найлепшым чынам можна дамовіцца аб далучэнні хоць часткі Беларусі да Польшчы. Як у ваду глядзелі палякі!

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі кааптавала ў свой склад братоў Луцкевічаў ды Вацлава Ластоўскага 18 сакавіка 1918 года. Ужо 21 сакавіка былі гатовыя дакументы на паездку ў Менск. Ах, як шкада, што няма падрабязных успамінаў, падрабязнай хронікі тых дзён! Хто сустрэў віленскіх дзеячаў на вакзале? Не сумняваюся, што Аркадзь Смоліч. Хто прывёў іх на пасяджэнне Народнага Сакратарыята? Ці не народны сакратар Смоліч?

На гэтым пасяджэнні браты Луцкевічы ўбачылі новых людзей. Вось схільны да кампрамісаў Язэп Варонка, вось падцягнуты, энергічны Кастусь Езавітаў (потым свае лісты да А. Луцкевіча ён будзе падпісваць коратка: Костусь). Вось пажылы, дабрадушны, але й паслядоўны Васіль Захарка, вось барадаты Пётра Крачэўскі, вось худы і ўжо лысы дацэнт Янка Серада, вось малады, з тоненькімі вусікамі Лявон Заяц, які будзе неадменным дзяржаўным кантралёрам і ва ўрадзе Луцкевіча, і ва ўрадзе Ластоўскага, вось энергічная, напорыстая Палута Бадунова (так і хочацца параўнаць яе з Марыяй Спірыдонавай), вось разумны, шчыры, але слабавольны Антон Аўсянік... Усе — сацыялісты. Хто левы, хто правы, хто цэнтрыст. Потым яны падзеляцца на тры партыі — сацыял-дэмакратаў, сацыялістаў-федэралістаў і сацыялістаў-рэвалюцыянераў, — але цяпер яны ўсе ў БСГ, у партыі, якую на пачатку стагоддзя заснавалі і браты Луцкевічы.

Мяне ўсё цікавіць: а ці прысутнічалі на тым пасяджэнні Народнага Сакратарыята Язэп Лёсік ды Алесь Гарун? З імі, ссыльнымі, Луцкевічы былі знаёмыя завочна, ліставна. Асабіста ж пазнаёміліся менавіта ў гэтыя дні.

Віленскія дзеячы прыехалі ў Менск 23 сакавіка. Якраз у гэты дзень Народны Сакратарыят атрымаў тэлеграму з Берліна. Нехта зрабіў копію дэпешы, педантычны Антон Луцкевіч сваёю рукою пазначыў, што тэлеграму атрымалі 23-га, і паклаў копію ў свой асабісты архіў. Вестку з Берліна чакалі. Справа ў тым, што 9 сакавіка, адразу пасля абвяшчэння Рэспублікі, Народны Сакратарыят адбіў тэлеграму з адпаведнаю заяваю рэйхсканцлеру Нямеччыны. Уяўляю, з якою цікавасцю бралі ў рукі адказ народныя сакратары. Тых, хто спадзяваўся на лепшае, чакала расчараванне. Нейкі чыноўнік паведамляў з Берліна, што пан імперскі канцлер не можа прыняць заяву Беларускага Народнага Сакратарыята, бо гэта было б умяшаннем у вялікарускія справы. Інакш кажучы, Нямеччына лічыла Беларусь акупаванаю расійскаю тэрыторыяй і не хацела прызнаваць БНР, псаваць адносіны з урадам Леніна.

Гісторыю робяць людзі. Людзі, якія сядзелі ва ўрадавых кабінетах у Берліне і Маскве, штурхалі беларускіх дзеячаў на шлях незалежнасці. Аўтанамісты апынуліся 23 сакавіка ў меншасці.

У сваіх успамінах Антон Луцкевіч не згадвае пра тэлеграму з Берліна. Ён успамінае, што мова на пасяджэнні Народнага Сакратарыята йшла пра пазыку. Бальшавікі і немцы пакінулі ўрад БНР без грошай. Трэба было даставаць пазыку на Украіне. Але каму меўся пазычаць грошы ўрад Украіны? Беларускай дзяржаве ці акупаванай частцы Расіі? Урад самастойнай дзяржавы можа даць крэдыт толькі ўраду самастойнай дзяржавы. Вось адзін матыў, паводле якога БНР павінна абвясціць сваю незалежнасць. Ёсць і другі. Абвяшчэнне незалежнасці будзе пратэстам супраць Берасцейскага міру, супраць падзелу Беларусі.

Так аргументаваў сваё выступленне на карысць незалежнасці Антон Луцкевіч. І Народны Сакратарыят без спрэчак выслухаў яго.

Аўтанамісты апынуліся 23 сакавіка ў меншасці, але яны яшчэ спрабавалі давесці сваю рацыю. У адпаведнасці з прынятаю працэдураю пытанне аб незалежнасці трэба было разгледзець у сацыялістычнай фракцыі Рады БНР. Тут рэй вёў Аркадзь Смоліч — кіраўнік фракцыі, фактычны старшыня БСГ. Насуперак яму, насуперак аўтарытэту Луцкевічаў ды Ластоўскага выступіла група на чале з Макарам Косцевічам — паэтам і перакладчыкам Макарам Краўцовым. Не будзем строга судзіць Макара Краўцова. Хоць бы таму, што ў рэшце рэшт ён згадзіцца з меркаваннем большасці. А яшчэ таму, што ён напіша нацыянальны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...», што ён будзе бараніць БНР у Слуцкім паўстанні 1920 года, што ён за беларускую справу сядзецьме ў польскім астрозе і загіне ў бальшавіцкім.

Дасягнуўшы згоды, беларускія сацыялісты змаглі цяпер паставіць пытанне аб незалежнасці ў Радзе Рэспублікі, дзе яны складалі большасць. Даклад ад імя фракцыі даручылі зрабіць Аркадзю Смолічу.

24 сакавіка а 8-ай гадзіне вечара сабралася пленарнае пасяджэнне Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Спрэчкі йшлі вакол самой ідэі незалежнасці (супраць яе выступілі некаторыя прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў), вакол фармулёвак. Працавалі, спрачаліся 12 гадзін. А 8-ай гадзіне раніцы 25 сакавіка тэкст трэцяй Устаўнай Граматы быў прыняты.

Як успамінае пляменніца Івана й Антона Луцкевічаў, Марыя Шабуня, у той дзень іх дом на Хрышчэнскай (прыблізна там, дзе цяпер Купалаў музей) быў поўны людзей. Дзень быў святочны. Католікі адзначалі Звеставанне (Дабравешчанне). Паводле Евангелля, у гэты дзень архангел Гаўрыіл сказаў Дзеве Марыі, што яна народзіць Збавіцеля. Ці згадалі пра гэта католікі, праваслаўныя ды атэісты, якія сабраліся ў доме Луцкевічаў, каб парадавацца, яшчэ раз павіншаваць адзін аднаго? Іван Луцкевіч кашляў. Хвароба брала сваё. Але гэты дзень быў для яго, мабыць, самы радасны, самы шчаслівы.

...Незалежнасць Беларусі была абвешчана пазнавата. Калі б да Берасцейскага міру...

Гісторыя не прызнае ўмоўнага ладу. Усё рабілася так, як рабілася, і тады, калі рабілася. Можна толькі гадаць, што здарылася б, калі б Акт аб незалежнасці быў абвешчаны 20 лютага. Але ва ўсякім разе можна сцвярджаць, што БНР была, паводле гісторыка Юрыя Туронка, нежаданаю Рэспублікаю. Яе не жадалі ні Расія, ні Польшча, ні Германія, ні

(Працяг на стар. 12).



Старшыня першага ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі Язэп ВАРОНКА.



Антон ЛУЦКЕВІЧ.



Народны сакратар у першым урадзе БНР, Старшыня Рады БНР у 1919—1923 гг. Пётра КРАЧЭЎСКІ. На адваротным баку фотаздымка дарчы надпіс: «На добрую памяць Антону Луцкевічу аб супольнай працы па пабудове беларускай дзяржаўнасці ў 1918 годзе. Як мала пражыта і як многа перажыта. Пятрук Крэчэўскі».

# З НАСТАЛЬГІЯЙ ПА ТЭОРЫІ

**Алег ЛОЙКА**

З БОЯЗЗЮ, ці не праслыну кансерватарам, пачынае гэты артыкул у пераканані, што «чыстае» літаратуразнаўства, як паветра, сёння нам патрэбна, што праблемна - тэарэтычныя артыкулы, якія сталі ў нас рарытэтам, даўно пара ўжо адраджаць. Наперад ведаю, што і мне не ўцячы ад запалітызаванасці, тым не менш... Спярша — праблемна-тэарэтычнае, а ўсё астатняе — пасля.

Не ўцячы ж ад палітызацыі таму, што наша літаратуразнаўства больш як паўвека было ідэалагізаваным, і пагэтаму сёння, як ні круці, нікому не пазбегнуць задзёру антыідэалагізацыі нават у гаворцы аб самых, здавалася б, суха акадэмічных, уласнаэстэтычных праблемах. Ды і таму не пазбегнуць палітызацыі літаратуры, што ніяк нельга адмежавацца ж і ад гісторыі, ад перыпетый барацьбы народа за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Дэмагогія і міфы, міфы і дэмагогія, колькі ж гадоў яны заглушалі галасы ісціны, пошук даследчай думкі, свабоду яе, каверкаючы да непазнання нашую гісторыю, рэальную праўду падзей, з'яў, духоўнае жыццё народа, у тым абсягу і літаратуру, і навуку аб ёй — літаратуразнаўства!

Сапраўды ж, развіццё літаратуразнаўства ў Беларусі зазнала ўрон не толькі ад рэпрэсій, але і ад таго, што ўвогуле — у рамках усяго савецкага літаратуразнаўства — эвалюцыянавала ў бок вульгарызацыі і спрашчэнства, у цэлым аказалася адключаным ад развіцця літаратуразнаўства еўрапейскага, у цэлым было нарматыўна сплецена з эстэтыкай рэалізму і народнасці рускай літаратуры XIX стагоддзя як з фактарам устарэлым, зжыўшым сябе, рарытэтным. Думаецца, што мы дасюль яшчэ цалкам не ўсвядомілі, якімі мы былі і застаёмся адсталымі, у які тупік трапілі, як шмат гублялі і як шмат цяпер трэба наганяць, каб выйсці з крызісу, каб заняць адпаведны еўрапейскі ўзровень. Наша літаратуразнаўства цяпер стаіць, па сутнасці, на месцы: яно замерла, яно нібы без перспектывы. У яго ёсць усведамленне неабходнасці канцэптуальна пераасэнсаваць развіццё беларускай літаратуры ў XX стагоддзі, ёсць новае ўсведамленне сваёй нацыянальнай літаратуры ў свеце ў сувязі з адкрыццём для сябе літаратуры эміграцыі, ёсць новае пачуванне сябе — сённяшняга дня літаратуры — у сувязі з днём мінулым — гісторыяй больш блізкай і больш далёкай. Але ўсё ж, як на наш погляд, на пульсе самага неабходнага, самага бо̀левага, крызіснага нашае літаратуразнаўства сёння рукі не трымае. Відаць, няма самога адчування крызіснасці, адсталасці, непершаразраднасці. Відаць, нялёгкія вы, шляхі новага канцэптуальнага асэнсавання, пераадолення старых догмаў!..

Што наша літаратура пачатку XX стагоддзя — з падложжа рэвалюцыі, з канфліктаў сацыяльных, з нацыянальна-вызваленчага руху — гэта неабвержна. Клічучы ў рэвалюцыю, і Янка Купала, і Якуб Колас, і Максім Багдановіч як паэты сацыяльныя і нацыянальна-адраджэнскія нібыта цалкам лагічна аказваліся для іх даследчыкаў савецкага часу заклікальнікамі і Кастрычніка — асабліва для даследчыкаў пасляваеннага перыяду, калі нападкі за «памылкі», «хістанні» на Янку Купалу і Якуба Коласа з боку вульгарных сацыёлагаў 20—30-х гадоў як бы расталі за дымам пажараў Вялікай Айчыннай вайны. Але праз увесь пасляваенны час наша беларускае літаратуразнаўства толькі тое і рабіла, каб узвысіць, каб адбяліць ад чарнаты народных паэтаў нібыта як паслядоўна верных барацьбітоў за ідэалы рэвалюцыі і той рэчаіснасці, што запанавала ва ўмовах перамогі кастрычніцкіх падзей. Ніхто ж, як цяпер, не гаварыў колісь пра гэтыя падзеі як аб перавароце, бо на языку ў кожнага быў міф аб горкім, бяздольным жыцці беларускага народа перад Кастрычнікам і аб радасным жыцці, што прынёс беларускаму народу Кастрычнік. Асноўным у міфе аб рэвалюцыйнасці народных паэтаў была менавіта апалагетызацыя іх сацыяльнай вастрыні, рэвалюцыйнай актыўнасці. Увогуле рэвалюцыйна - пралетарскае, рэвалюцыйна - дэмакратычнае ўкаранялася як першасны, галоўны крытэрый пры ацэнцы нашай дарэвалюцыйнай літаратуры, — пісьменнік агульнадэмакратычнай платформы ўвогуле адсоўваўся на другі план, а яшчэ далей запраторвалася ўсё, што звязвалася з «мастацтвам для мастацтва», мадэрнізмам, дэкадансам і г. д. Такім чынам, першае, што зараз патрабуе перагляду і тэрміновай пераацэнкі — гэта якраз вызначэнне меры праўды ў крытэрыі рэвалюцыйнасці, пошук аб'ектыўных пазіцый стаўлення да таго, што было, але што было ў нашай навуцы, літаратуры неправамерна патрактавана і ўкаранёна ў нашу свядомасць. Апалагетызму Кастрычніка як натхняючай сілы, як пачатку пачаткаў, як крытэрыю вялікасці, праведнасці, асялку, на якім вымяралася мастацкасць, вартасць, ідэйнасць, беспамылковасць, — гэтаму апалагетызму няма ўжо на сёння месца і не можа быць. Бо апалагетызм у дадзеным выпадку — па-за рэальнай праўдай гісторыі. Бо сама наша беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя ў яе арыентацыі на сацыяльную рэвалюцыю — не толькі гераіня гісторыі, але і ахвяра ілюзій, утопіі. У чым бачылася яе моц, у тым жа мы павінны ўбачыць зараз і яе без віны вінаватасць — слепату, аберацыю зроку, самападман і падман народа, чалавека.

ВЯДОМА Ж, і Янка Купала і Якуб Колас былі паэтамі рэвалюцыйна настроенымі — супраць царызму, за сацыяльныя пераўтварэнні грамадства, за нацыянальнае разняволенне. Але не ў меншай ступені і ў Янкі Купалы і ў Якуба Коласа былі дамінантнымі і іншыя моманты ў змястоўнасці іх паэзіі пачатку XX стагоддзя — моманты агульначалавечага, агульнафіласофскага, рэфлексійна-духоўнага зместу. Ды не ў тым, урэшце, вялікая бяда, што мы выпячвалі і пераўвялічвалі без рэальных на тое падстаў сацыяльна-рэвалюцыйны пафас абодвух нашых паэтаў. На сёння наша літаратуразнаўства дастаткова паказала ўсю шматграннасць і Купалы-лірыка і Коласа-паэта. Тым не менш і на сёння мы не вырваліся з апалагетычнага стану ў адносінах да купалаўскіх ці коласаўскіх дарэвалюцыйных песняў рэвалюцыйнай прапаганды і патэтыкі, толькі са знакам плюс іх бачачы і не засяроджваючы ўвагі на тым, што яны сапраўды вялі ж і да таго перавароту, што адбыўся 7 лістапада 1917 года, і што падтасаваць іх пад гэты пераварот было вельмі лёгка, зрабіўшы нашых народных паэтаў не ўвогуле песнярамі Рэвалюцыі, а менавіта рэвалюцыйным прадспевам самога Кастрычніка. Тое ж, як у 1918—1926 гадах рэагавалі на Кастрычнік, грамадзянскую вайну і новую савецкую рэчаіснасць Янка Купала і Якуб Колас — хоць бы будучы аўтарамі вершаў «Крыўда», «Звон шыбаў», «Цені-страхі», «І прыйдзе...», — з памяці пасляваенных чытачоў Беларусі выкасоўвалася, і, такім чынам, бардамі Кастрычніцкага перавароту, ці то Кастрычніцкай рэвалюцыі, падаваліся абодва нашыя першыя Народныя паэты і сваёй дарэвалюцыйнай творчасцю і сваімі культавымі вершамі, святочнымі панегірыкамі 20—30-х гадоў. Прычым, менавіта паэтамі-рэвалюцыянерамі, паэтамі-барацьбітамі праклямаваліся Купала і Колас і як аўтары вершаў панегірычных, культавых.

Дэмагогія правіла свой баль — дэмагогія, звязаная з зацвярджэннем культу народных паэтаў як рэвалюцыянераў, прычым рэвалюцыянераў і ў новых, савецкіх умовах, творчасць якіх не інакш, як толькі ўквечвала самы дэмакратычны ў свеце савецкі дэмакратызм і была нібыта нічым іншым, як толькі рэальным, праўдзівым водгаласам жыцця — радаснага! — народных мас. Бо сапраўды ж: праўдзівыя застаюцца праўдзівымі, — хто ў гэта не паверыць? Калі народныя паэты былі голасам народа ў дарэвалюцыйны час, то не магло ж іх слова быць якім-небудзь іншым, а не праўдзівым і зараз — у час савецкі. Ужо на ўсю моц у савецкай шматнацыянальнай літаратуры запанавалі, усталяваныя культам, рэпрэсіямі, ідэалагічным прэсам, нарматыўнасць, лакіроўка, псеўдарамантыка, ідэалізацыя, псеўдагераізацыя, ды ўсё гэта выдавалася за праўду жыцця і мастацтва, за літаратуру найлепшую ў свеце — літаратуру сацыялістычнага рэалізму.

Дык ці былі песнярамі Кастрычніка Янка Купала і Якуб Колас? Ці былі яны рэвалюцыянерамі? Ці прынялі Кастрычнік і савецкую ўладу, і чым жа яны сталі ў сваіх панегірычных вершах 30-х гадоў?

Прафесійнымі рэвалюцыянерамі яны не былі, хоць за палітычныя справы сядзеў Якуб Колас у Мінскім астрозе.

Песнярамі Кастрычніка іх сёння называць больш чым рызыкоўна, бо Кастрычніцкі пераварот яны не віталі, бо клічучы свой народ у рэвалюцыю, не таго ж яны ад яе чакалі, што даў таталітарны лад, зацверджаны бальшавікамі. Бальшавізм зламаў рэвалюцыйны, адраджэнскі дух і Купалы і Коласа, ператварыўшы іх у служак таталітарызму. Ахвяры таталітарызму, трагічныя фігуры нацыянальнай літаратуры,— вось хто такія Янка Купала, Якуб Колас 30-х гадоў. Ім нічога не заставалася, як між дэмагогаў быць дэмагогамі і чорнае выдаваць за белае, белае за чорнае.

А што яны не прынялі ідэй бальшавізму з іх дэфарміраваннем маралі, дэмагогіяй, тэрорам, крывавасцю, то пра гэта сёння, нарэшце, можна сказаць на ўвесь голас. І то былі не памылкі, не «неразуменне» Кастрычніка. Разуменне падзей было поўным і пры агульным асуджэнні абодвума паэтамі Рыжскага дагавору, і ў лірыцы Купалы смаленскага перыяду ці 1926 года, і ў апавяданні Якуба Коласа «У крывавым віры», і ў многіх коласаўскіх «казках жыцця». І ні Купала, ні Колас не вінаватыя, што перамог сталінізм, што ва ўмовах яго разгортвання даводзілася ўсім, кажучы словамі Янкі Купалы, таптаць «сляды магчымасці магчымай», сябе таптаць. Патаптанне бальшавізмам рэвалюцыйна-дэмакратычных, гуманістычных ідэалаў асудзілі ўсю нашу літаратуру на горкае крывадушша. З рэвалюцыйнай, з дэмакратычнай, з гуманістычнай яна ва ўмовах таталітарызму стала перабэрсанай, анамальнай — часам да звыроднасці.

Якія ж урокі можна ўзяць ад мінулых трактовак адносін да рэвалюцыі Янкі Купалы і Якуба Коласа? Што ў іх асуджаць, што прымаць? Так ці інакш, калі вульгарныя сацыёлагі гаварылі аб непрыняцці, памылках ці варожасці Народных паэтаў Кастрычніку, то яны былі недалёкія ад ісціны: дыму без агню не было. Але справа ў тым, што ў вульгарных сацыёлагаў пісаніна аб непрыняцці Кастрычніка была палітычным даносам, крыміналам, такім сведчаннем, якое ставіла паэтаў да сценкі. Сёння без асуджэння гаворым мы пра тое, што было, — без асуджэння па адрасу народных паэтаў. Без асуджэння ж мы не можам гаварыць аб ваяўнічай пазіцыі, знішчальным прыцэле крытыкі вульгарызатараў. Тыя, хто ў пасляваенныя гады выводзілі Купалу і Коласа з сектара татальнага вульгарнага абстрэлу, гаворачы аб лаяльнасці і аж пра поўную спачатку і да канца купалаўскую ці коласаўскую падтрымку Кастрычніка, няхай яны і закрывалі вочы на рэальныя факты, але ўсё ж рабілі справу высакародную — не без патрыятызму, бо пры гэтым ішло адпаведнае ўзвышэнне роднай літаратуры, адпаведнае сцвярджэнне яе аўтарытэту.

Найбліжэй да ісціны аказаліся тыя з акадэмічнай, прафесійнай і пісьменніцкай крытыкі, хто, як Уладзімір Калеснік, гаварыў пра рух да зразумення Кастрычніка Купалы і пра зрухі дзеячаў Кастрычніка ў бок разумення самога Купалы. Сапраўды, як Купала мог прымаць пазіцыі Мяснікяна ці Кнорына, якія не прызнавалі беларусаў за нацыю, а наш нацыянальна-вызваленчы рух кваліфікавалі як буржуазны, контррэвалюцыйны? Такія дзеячы, як Мяснікян і Кнорын, толькі адштурхоўвалі народных паэтаў ад Кастрычніка. Ды дарма Янка Купала запэўніваў у сваёй публікацыі 1920 года, што на фарбаваных лісах ён ужо спазнаўся. У 1918 годзе Кнорын гаварыў адкрыта аб сваіх антыбеларускіх пазіцыях, а з 1919 года ўсе мясніковы і кнорыны такой шчырасці не выяўлялі: баль дэмагогіі ўчыніўся надоўга. У атмасферы дэмагогіі аб нармальным развіцці ў літаратуры чаго-небудзь і каго-небудзь гаварыць ужо няма падстаў.

ДЫ, ПЭЎНА, самых найбольшых сваіх маштабаў дэмагогія дасягнула ў высвятленні генеалогіі эстэтыкі сацрэалізму, яго гістарычных каранёў, «састаўных частак». Вось дзе сапраўды «да асноў» былі зрушаны падваліны, эстэтычныя крытэрыі праўды і мастацкасці ў літаратуры! Зрушаны настолькі, што дасюль нашай літаратуры цяжка ўсталёўвацца пры нармальным, эстэтычным угрунтаванні. Так, тэарэтыкі сацрэалізму сваёй гістарычнай прадцечай аб'явілі эстэтыку рэвалюцыйных дэмакратаў 60-х гадоў XIX стагоддзя М. Чарнышэўскага і М. Дабралюбава з яе крытэрыямі рэалізму, народнасці. Сацрэалізм быў аб'яўлены вянцом развіцця мастацтва пры звужэнні яго разумення да «паказу жыцця ў формах жыцця», пры нарматыўнай устаноўцы «Пішыце проста!» — у формах праўдападабенства, якія давалі ў выніку звычайнае бытапісальніцтва — і толькі. Прынцып партыйнасці быў аб'яўлены вышэйшай формай народнасці, і, такім чынам, дэмагагічна творы кан'юнктурныя, ідэалагізаваныя трактаваліся як народныя, рэвалюцыйныя (бо жыццё ж, паводле статута СП БССР, адлюстроўвалася «ў рэвалюцыйным развіцці»). Сацыяльнай праўды, праўды народнага жыцця, крытычна-рэвалюцыйнага пафасу, як правіла, і ў паміне не было ў літаратуры, вышкаленай сацрэалізмам, але, не міргаючы вокам, яго тэарэтыкі на ўсю губу вяшчалі аб савецкай літаратуры як аб найпраўдзівейшай і найрэвалюцыйнейшай.

Апагей дэмагогіі быў у апалагетызацыі крытычнага рэалізму рускай ці беларускай літаратуры XIX стагоддзя і ў перакідцы мастоў да мастацтва абяскроўленага, абездухоўленага, дэмаралізаванага, культава-панегірычнага, кан'юнктурна-ілюстрацыйнага, якое, аднак, лічылася мастацтвам вышэйшага вітка развіцця рэалізму. Аўтарытэтам літаратуры крытычнага рэалізму камуфляваліся сурагат, падробка, імітацыя. Але да мастацкага абяскроўлівання нашай літаратуры вяло не толькі апалагетычнае ўзнясенне вылучаных рэвалюцыйна-дэмакратычнымі крытыкамі 60-х гадоў мінулага стагоддзя прынцыпаў крытычнага рэалізму і народнасці. Не менш адмоўную ролю пры гэтым іграла раздзьмухванне вульгарна-сацыялагічных кадзілаў, дым якіх завалокваў усё, што знаходзілася па-за рэалістычнасцю і народнасцю, па-за тым, што пазітыўным сцвярджалі М. Чарнышэўскі і М. Дабралюбаў. А ў гэтым плане яны перш за ўсё адмаўлялі «мастацтва для мастацтва», аб'яўляючы яго ненародным, адлучаючы яго ад літаратуры і на ўсе лады беручы пад знішчальны крытычны агонь. Жданаўская пастанова пра часопісы «Звязда» і «Ленінград» 1946 года была ў гэтай сувязі вяршыняй разносных адносін да элітарнага, інтэлектуальнага, інтымнага, якое ахайвалася як нібы мяшчанскае, будуарнае, гнілаінтэлігенцкае, антынароднае. Спрашчэнства, нарматыўнасць жданаўшчыны, прадаўжаючы дабралюбаўскі падзел літаратуры на народную і ненародную, ненародным аб'яўляючы ўсе здабыткі, што складваліся ў рэчышчы рускага сімвалізму, а затым акмеізму, імажынізму, фармалістычных пошукаў футурыстаў, канструктывістаў і г. д., гэтым надоўга звужалі рэчышча развіцця і нашай беларускай літаратуры першай паловы XX стагоддзя — аж да 60—70-х гадоў. Бой супраць фармалізму, які запачаткаваўся ў 20-я гады, быў увогуле адмаўленнем літаратуры як прыгожага пісьменства, супраць формы як красы. Усё, што звязвалася з іх панаццямі, аб'яўлялася эстэцтвуючым, крамольным. Ідэалагічна-кан'юнктурны прэс суправаджаўся праклёнамі дэкадансу як прытулку ўсіх антынародных «ізмаў», у тым ліку і фармалізму. У нас у гэтай сувязі доўга ў эстэтах хадзіў Максім Багдановіч, супрацьпастаўлены рэвалюцыйным дэмакратам Янку Купалу і Якубу Коласу. Выраўніванне Максіма Багдановіча на адным узроўні з Купалам і Коласам адбылося

цераз узвышэнне першага да рангу рэвалюцыйнага інтэлігента-дэмакрата.

Увогуле спрэс аб'яўляючы фармалізм як заганны, тэарэтыкі сацрэалізму не маглі, аднак, цалкам быць безуважнымі да формы як красы, як самакаштоўнасці ў мастацтве. Зноў жа дэмагогія выручала: лаючы фармалізм, дазвалялі фармалізм у плане барацьбы за паэтычнае майстэрства, так сказаць, малы, прыватны фармалізм. Усведамляючы сёння гэта, мы, аднак, павінны стаць да канца паслядоўнымі, і менавіта паслядоўнасць патрабуе ад нас сёння цалкам рэабілітаваць форму як мастацкую самакаштоўнасць, цалкам адступіць ад вульгарна-сацыялагізатарскага дзялення літаратуры на перадавую, дэмакратычную, рэвалюцыйную і народную і нібыта ненародную элітарную, звязаную з так званым мастацтвам для мастацтва. Сапраўднае мастацтва — адзінае, сутнасць яго — адзіная, мэты і сродкі — адзіныя. Сапраўднае мастацтва — у раўненні на ідэал, на прыгожае, вечнае. У мастацтве ўсё народнае, калі яно сапраўднае, калі пры красе і дабры. І ў цэлым мастацтва — штука элітарная, вынік высокага духу, інтэлекту, формы, красы. Не ў апусканні яно да «шырспажыву», да поп-арту, а ва ўзвышэнні. І гэта зразумелі ўжо ў 20-х гадах у нас заснавальнікі «Узвышша», вылучаючы сябе з масавасці, сцвярджаючы самацэннасць творчай асобы, індывідуальнасці.

КАЛІ НА САМЫМ пачатку гэтага артыкула выказвалася прэтэнзія на напісанне яго як «чыста» акадэмічнага, тэарэтычна-літаратуразнаўчага, то пры гэтым, вядома, не мелася ніякіх прэтэнзій і спакус аказацца нейкім чынам і ў рэчышчы таго сучаснага еўрапейскага і амерыканскага літаратуразнаўства, стан якога заходнія літаратуразнаўцы вызначаюць як трыумф тэорыі. Якраз пра гэты стан гады два таму назад пісалася ў часопісе «Вопросы литературы» (1990, № 5). У нас, вядома, рэха пра тое не пайшло: дзе ўжо нам, запалітызаваным, да тэорыі!

Перачытаем жа адну з мясцін артыкула Дж. Хіліс Мілера з ягоным разуменнем «трыумфа тэорыі» як «развіцця вялікай колькасці супернічных між сабой магутных тэарэтычных вучэнняў, такіх, як герменеўтыка, фемінізм, марксізм, дэканструкцыянізм, новы гістарызм, тэорыя чытацкага ўспрымання, канцэпцыі Лакана, Фуко і г. д.». «Гэтая перамога тэорыі, — піша далей амерыканскі літаратуразнаўца, — змяніла літаратуразнаўства ў параўнанні з тым, якім яно было (на Захадзе. — **А. Л.**) сорак гадоў таму назад, калі... большай часткай вывучалі асноўныя творы ў іх гісторыка-літаратурным кантэксце, адкрыта апіраючыся... на фундаментальныя перадпасылкі так званай «новай крытыкі»: прымат метафары, універсальнасць адзінства і г. д.». Другі раз у крытыка гэта «і г. д.», а што дзе калі мы чулі, пісалі з вельмі шматлікага і перад гэтым «і г. д.»? Марксізм, структуралізм то чулі, а ўсё астатняе, сярод якога яшчэ крытыка свядомасці Жоржа Пуле і Жэнеўская школа, неапрагматыкі і адэпты рэцэптыўнай эстэтыкі, палітычнай крытыкі, постструктуралізму — чытанне твора па лексіях, нанізваючы асацыяцыі ў любым кірунку, улоўліванне культурных падтэкстаў тэксту, чытанне пазарамкавага тэксту, — усё гэта існуе па-за нашай свядомасцю.

Кірункі, метады, спосабы даследавання, іх сапраўды даволі набралася ў пасляваеннай Еўропе і Амерыцы. Мы сёння перад набыткамі іх і канцэпцыямі — як неафіты, як непрыадзетыя. І пагэтаму давайма зноў брацца за гуж, за які мы аднойчы ўжо ў XX стагоддзі браліся, калі на яго пачатку, кажучы словамі Максіма Багдановіча, прайшлі «кароткі паўтарыцельны курс» еўрапейскіх пісьменніцкіх напрамкаў апошняга веку». М. Багдановіч падкрэсліваў: «Сентыменталізм, рамантызм, рэалізм і натуралізм, урэсьце, мадэрнізм — усё гэтае, іншы раз нават у іх розных кірунках, адбіла наша паэзія, праўда, найчасцей бегла, няпоўна, але ўсё ж такі адбіла». У нас гаворка тут не пра паэзію, але якраз сказанае М. Багдановічам пра паўторнасць, пра закон «паўтарыцельнага курсу», які заўсёды ходзіць напару з літаратурамі паскораных тэмпаў развіцця, угрунтоўвае нас у аналогіі, якую мы допускаем: закон паўторнасці абавязвае нас і сёння — пры канцы XX стагоддзя — успомніць і яго, і фактар паскоранасці. Не так нашая паэзія і не так нашая проза стаяць перад неабходнасцю паскоранага засваення ўпушчанага, неагоранага нашай нацыянальнай літаратурай з эстэтычнага вопыту сусветнай літаратуры перыяду пасля І і II імперыялістычных войнаў, як непасрэдна перад гэтай задачай стаіць менавіта нацыянальнае літаратуразнаўства. Вядома, і сённяшнія беларускія паэзія і проза не могуць не дабіраць з зарубежнага вопыту, імі ў сувязі з нарматыўным сацрэалізмам і жалезнай заслонай больш за 70 гадоў не дабіранага. Але маштаб таго, што выпадае зараз на долю нашаму нацыянальнаму літаратуразнаўству па выроўніванню сябе ў сусветным кантэксце, па дагонцы, — не параўнаць. Не да параўнання аб'ём, як і характар выраўнівання: нацыянальныя ці паэзія, ці проза, свой базісны субстрат — самы шырокі — маюць і іх інтэграцыя ў сучасны сусветны літаратурны кантэкст будзе ісці з успрыманнем імі ўплываў, як і з выпраменьваннем іх, з пэўнай мадэрнізацыяй, як і з умацаваннем, кансервацыяй свайго адметнага, непаўторнага нацыянальнага мастацкага воблiку. Прагназіраванне далейшага развіцця сучаснага беларускага літаратуразнаўства, на наш погляд, якраз у зацвярджэнні самага новага, самага шырокага свайго базісу цераз «паўтарыцельны курс» школ і кірункаў Еўропы і Амерыкі XX стагоддзя. Інтэграцыі ў сусветны кантэкст літаратуразнаўства ў нас не адбудзецца без праходжання выўучкі, без нацыянальнага засваення і інтэрпрэтацыі канцэпцый, без правядзення матэрыялу роднай літаратуры цераз галоўныя літаратуразнаўчыя школы, спосабы і прыёмы даследавання. Іншымі словамі, мы стаімо перад напрацоўкамі, якія б далі і школу беларускага структуралізму і нацыянальнага постструктуралізму, і школу беларускай герменеўтыкі і нацыянальнага фемінізму, і школу беларускага неапрагматызму і нацыянальнай, рэцэптыўнай эстэтыкі і г. д. Калі мы змаглі прайсці паскорана «паўтарыцельны курс», пра які пісаў Максім Багдановіч, то няўжо мы не адолеем гэтага новага «паўтарыцельнага курсу», які нашай нацыянальнай навуцы аб літаратуры канец XX стагоддзя прыўрочыў?

# ПРАВІНЦЫЯ

**У рэдакцыйным партфелі адначасна аказаліся два матэрыялы на адну тэму. Іх аўтараў турбуе адно і тое ж — стан сучаснага беларускага літаратуразнаўства, яго інтэграцыя ў сусветны літаратурны кантэкст. Аднак ёсць істотная розніца як у падыходах, так і ў навуковай, грамадскай пазіцыях вядомага пісьменніка, прафесара А. Лойкі і невядомага Ю. Лявончыка. Справа ў тым, што аўтар дасланага ў рэдакцыю артыкула «Правінцыя» выступае пад псеўданімам: ён не пажадаў (пабаяўся!) адкрыць нам сваё сапраўднае імя.**

**Увогуле мы не змяшчаем ананімак, тым больш па аддзелу крытыкі, і толькі важнасць і своечасовасць паднятага пытання вымушае нас зрабіць выключэнне...**

Адбылося: мы — незалежная самастойная Рэспубліка Беларусь. Свае межы, свая літаратура, свая дзяржава, свая навука. І тым не менш (няхай выбачае патрыёт), мы — правінцыя. Не расейская, не польская — правінцыя свету.

Не пагаджаецеся? Дарма. Вазьміце нашу мастацкую літаратуру і ўбачыце, што самыя лепшыя неардынарныя (для нас) творы — перапевы старога Хэма ці Іанэска. Што ж, гэта зразумела: мы зноў павінны прайсці за невялікі тэрмін шлях, які прайшлі іншыя краіны за гады-дзесяцігоддзі. (Памятаеце словы М. Багдановіча?) Шлях пакутлівы — шлях пераймання. Але патрэбны. Толькі трэба шчыра сказаць самім сабе: у нас пакуль што няма мастацка і філасофска значных твораў у сучаснай літаратуры — на ўзроўні сусветнай.

Аднак і наша літаратуразнаўства, і наша бягучая крытыка таксама правінцыйныя. А гэта непараўнальна горш: калі ў мастацкіх творах чытач можа самастойна вылучыць зерне таленту, у навуцы справа складаней—трэба быць асвечаным навукай чалавекам, каб зразумець, што перад табой эрзац.

Мы практычна не маем сур'ёзных манаграфій, прысвечаных сапраўдным праблемам. Напрыклад, такая значная (ва ўсім свеце) праблема міфу. Існуе пакуль што толькі кніга В. Каваленкі, якая выйшла больш за дзесяць год таму. Праблема была пастаўлена, а развіцця не ўбачыла. Мы гаворым толькі пра выкарыстанне міфалагічных сюжэтаў у творах беларускіх пісьменнікаў і цалкам забываемся пры гэтым на больш важкія рэчы: міфалагічнае светаўспрыманне, калектыўная самасвядомасць, цыклічнасць гісторыі — усяго таго, што і складае міф у творах. Хіба без гэтых рэчаў можа быць зразумела творчасць Ластоўскага ці Дылы, Баршчэўскага ці асобных твораў Гарэцкага, Гаруна?

Міф — толькі адна, няхай і істотная праблема філалогіі, якую абыходзіць наша літаратуразнаўства. Чым жа яно займаецца, спытае наш патрыёт? Адказваю: канстатацыяй. Асабліва калі гэта датычыцца сучаснай літаратуры: ёсць тое і тое, няма таго і гэтага. Працы, прысвечаныя старажытнай літаратуры, творам XIX, пачатку XX ст., увогуле дакладней называць крыніцазнаўствам. Што я маю на ўвазе? Сёння, калі вяртаюцца ў літаратуру творы, артыкулы будуюцца так: друкаванне ці пераказ тэксту, дадаецца жыццяпіс, невялікі публіцыстычны каментар з уздыхам (забаранялі і г. д.) — і друкуецца, і называецца літаратуразнаўствам.

Навукоўцы подбегам кінуліся: хто хутчэй адшукае ці проста перадрукуе (што часцей) нешта з архіваў, замежнага ці айчыннага дарэвалюцыйнага, дарэпрэсійнага друку. І мы кажам: адкрыў нам пісьменніка. (Хоць уся яго заслуга ў наяўнасці дазволу карыстацца матэрыялам). І пры гэтым вельмі любім павучаць: малайчына быў, але не ўсё разумеў, не дацягваў. Як раней казалі пра Скарыну: людскі чалавек, багата зрабіў, аднак быў абмежаваны — друкаваў Біблію. Так і сёння: нішто быў Жылуновіч, але...

Натуральна, патрэбна выяўляць творы нашай літаратуры. Толькі ж гэта справа супрацоўнікаў бібліятэк, архіварысаў — на што ж у іх хлеб адбіваць. А вось напісаць што сур'ёзнае, вартае непасрэдна пра творы — гэта справа філолагаў. Хто напісаў, прынамсі, пра тыпалогію твораў Арцыбашава і «Голага звера» М. Зарэцкага? Хто сказаў пра «Лабірынты» ў кантэксце сусветнай фантастычнай і міфалагічнай літаратуры? Вельмі па-сучаснаму пісаць пра Гаруна як апазіцыянера. Але хіба гэта стасуецца з літаратуразнаўствам? А вось напісаць пра катэгорыю часу ў яго творах ці пра «П'еро і Каламбіну» — у еднасці з мастацкімі пошукамі Л. Андрэева...

Так, каб філолаг быў творцам, роўным свайму герою, ён павінен ведаць, што такое параўнальнае літаратуразнаўства, што, акрамя ўласных класікаў навукі, ёсць яшчэ Весялоўскі і Пропп, Галасоўкер і Леві-Строс, Бахцін і Р. Барт, М. Эліадэ. Паспрабаваць для пачатку накласці іх ідэі на нашу літаратуру і паглядзець, што з гэтага атрымаецца. Трэба нарэшце выйсці за межы павярхоўнага погляду, уяўлення, быццам, акрамя нас, нікога няма, перастаць канстатаваць наяўнасць ці адсутнасць нейкай з'явы, трэба аналізаваць і — можа, у будучым — прагназіраваць.

Сённяшняе літаратуразнаўства (жудасна сказаць) не патрэбна. І дарма аб'ядноўвацца ў секцыі крытыкаў, як нядаўна суцяшальна паведаміў «ЛіМ». Не еднасць усіх выратуе, а індывідуалізм, шырыня пошукаў, прафесіяналізм. Сусветнае (і ў тым ліку расейскае) літаратуразнаўства, як і ўвогуле навука, сёння знаходзіць адкрыцці на сумежжы — навук, моў, краін. Узгадайце Л. Гумілёва, А. Сулейменава, іншых. Тая ж самая кліеметрыя (ці не пра яе марыў герой Пушкіна — «алгебрай гармонію праверыць»?) — што, у беларускай літаратуры не дала б плёну?

Самае галоўнае — тыя праблемы, якія закранаюцца ў артыкулах. Пра што, уласна кажучы, ідзе гаворка, з-за чаго ламаюцца дзіды, дзеля чаго напісана тая ці іншая старонка? Вось да прыкладу, у «ЛіМе» шэраг артыкулаў быў прысвечаны пытанню: Еўропа мы ці Азія. Што гэта значыць, калі мы — Беларусь, мы — гэта мы! І дастаткова. А вось якія мы — пытанне больш складанае, тут наскокам не возьмеш.

Адзін з апошніх артыкулаў на гэту тэму — «Мы дойдзем. Юрка Віцьбіч» Л. Юрэвіча. Што й казаць, наспеў час вяртання самабытнага таленавітага пісьменніка. Але зноў чарговы пісьменнік прыходзіць неяк дзіўна: не сам па сабе — абавязкова трэба надаць яму актуальнасць. (Ён — еўрапеец). Вы зразумелі, які ён пісьменнік? Я — не. Да таго ж тая гонка, пра якую казаў: амаль што аднačасова «ЛіМ» падаў артыкулы Б. Сачанкі і Л. Юрэвіча з вялікай колькасцю адных фактаў і вытрымак, а Б. Сачанка паспеў яшчэ і ў «Спадчыну» цісnуць колькі слоў пра яго. Віцьбіч паўстае і як беларус-культурнік у замежжы, і як ахвяра, і як дзеяч выдаўніцтва, але не як пісьменнік. Праўда, Л. Юрэвіч дае зразумець, што Ю. Віцьбіч — адзін з пачынальнікаў беларускай гістарычнай прозы. У чым гэта першынство? У часе друкавання ці распрацоўцы тэмы? Што канкрэтна «еўрапейскага» (калі так можна сказаць) ёсць у яго творчасці? Погляд на гісторыю? Калі так, то чаму не развіць думку: якога погляду пісьменнік прытрымліваўся — Тойнбі ці Шпеглера, Ясперса ці Хайдэгера, Абдзіраловіча ці Р. Максімовіча, ці нейкага свайго? І, можа, варта даць не ўрыўкі з прац Л. Акіншэвіча і Р. Максімовіча, а самі працы (добра было б «Спадчыне» ўзяцца за гэта, а не вышукваць «кампрамат» на Жылуновіча. І Л. Юрэвіч, напэўна, мог бы падрыхтаваць публікацыю).

Можна пагадзіцца з думкамі аўтара наконт адрознення беларускай і расейскай гістарычнай прозы. Аднак навошта супрацьстаўляць Захад — Усход? Хочацца прывесці словы з кнігі А. Бярозы «Расейска-польскі баль і беларускае пахмелье (куды ідзець беларускі шлях)» (Пінск, 1921 г.) «...Беларускае «пахмелье» не павінна прамінуць бязследна. Няхай ведае і памятае многапакутны беларускі народ,.. што яго шлях ідзе ні да Расеі, якая балявала над ім, прыдушаным разам з польскім народам, ні да Польшчы, якая толькі што выкараскаўшыся з расейскіх лап, стала ўжо душыць беларусаў і старацца атруціць нацыянальны дух і загубіць веру ў адраджэнне сваёй Бацькаўшчыны». Даруйце за вялікую цытату, але, напэўна, патрэбны хоць нейкі аўтарытэт, каб самому схавацца за ім і крыкнуць: «Беларусь — гэта Беларусь»!

Ёсць у артыкуле (не толькі ў згаданым, а і ў шэрагу іншых, нават не толькі філалагічных — хутчэй адраджэнскіх) праблема, якая ўяўляецца ці не самай балючай з адзначаных вышэй: нацыянальная талерантнасць.

Вось Л. Юрэвіч прыводзіць словы Р. Максімовіча, што забойства Язафата «мае ў сваёй аснове чужыя, небеларускія прычыны». У арыгінале працы чытаем далей: «Гарачы прапагандзр вуніі япіскап Язафат — украінец і з свайго паходжання (валыняк), і сваёй псыхікай, і тэмпераментам. У сваёй вунійнай акцыі ён выступаў з тыповай для ўкраінца, а не беларуса, нястрыманай пачуццёвасцю». Няма горш за абвінавачванне нацыі Імярэк у сваіх бедах і праблемах. Калі пачынаюцца падобныя размовы — любую, нават самую высакародную справу можна лічыць нікчэмнай.

І ў стаўленні беларускага народа да яўрэяў аўтары не ва ўсім маюць рацыю. Ухваляючы вяртанне Ю. Віцьбіча, Н. Арсеньевай, К. Езавітава, Ф. Кушаля ў нашу гісторыю, гісторыю нашай літаратуры, мы не дагаворваем, што ў свой час імі было багата напісана антысеміцкіх артыкулаў. Сёння мы павінны гаварыць і пра гэта, не шукаць апраўдання ў ваенным ліхалецці. Бо і ў ранейшыя часы ёсць у беларускай літаратуры прыклады — вершы Ф. Багушэвіча (зараз, праўда, яны не друкуюцца). Так што і наш народ не пазбаўлены недаравальнага. Праўда, поўная, горкая, нават у дачыненні да сваіх герояў, творцаў — вось яшчэ адна ўмова, пры якой не будзе правінцыялізму ў душах, у літаратуры, у навуцы.

Я не хацеў ва ўсіх бедах абвінаваціць аднаго Л. Юрэвіча, не хацеў, тым больш адмовіць літаратуразнаўству ў праве на існаванне, не. Аднак я хацеў, каб усе мы зразумелі, што такое сапраўдная навука, і сталі Творцамі. Як казаў Юрка Віцьбіч, «і гэтак, толькі гэтак урэшце станецца».

**Юрка ЛЯВОНЧЫК.**

**«ЛіМ» неаднойчы ўзнімаў на сваіх старонках праблемы музычнай педагогікі. Гэта і зразумела: менавіта ў нетрах гэтай ёмістай галіны крыюцца многія беды нашага музычнага жыцця, культуры беларускага народа, эстэтычнага выхавання ды развіцця.**

**Курсы вышэйшага выканаўчага майстэрства па класе трамбона, не без цяжкасцяў арганізаваныя аб'яднанымі намаганнямі Саюза музычных дзеячаў Беларусі ды кансерваторыі па ініцыятыве дацэнта кафедры медных духавых інструментаў БДК Р. Лагонды, яшчэ раз пацвердзілі: праблем багата, іх неабходна вырашаць. Для правядзення курсаў быў запрошаны прафесар С.-Пецярбургскай кансерваторыі па трамбоне Віктар Сумеркін — заслужаны артыст Расіі, лаўрэат Міжнароднага конкурсу, член Міжнароднай асацыяцыі трамбаністаў.**

**Бліскучых вынікаў В. Сумеркін дабіваўся сам, сфарміраваўшы ўсе свае веды, вопыт у стройную СІСТЭМУ, па-сапраўднаму педагагічную, — на карысць і сваім студэнтам, і музычнаму мастацтву ўвогуле. Беларускім музыкантам будзе цікава пазнаёміцца з меркаваннямі нашага госця.**

**НАШЫ ГОСЦІ**

# ДУХАВІКІ «ТАМ» І «ТУТ»

**— Віктар Васільевіч, вы з'яўляецеся прадстаўніком таго пакалення вядучых выканаўцаў-трамбаністаў, якія вучыліся ў педагогаў, чые творчыя прынцыпы сфарміраваліся да рэвалюцыі 17-га года. І сёння, на мой погляд, вы адзін з самых прагрэсіўных дзеячаў сучаснай педагогікі, пазнакай чаго з'яўляецца і ваша прафесійная цікавасць да замежных выканаўчых школ, прызнанне іх дасягненняў.**

— Нягледзячы на тое, што ў нас у Піцеры быў адладжаны механізм пераемнасці, да многіх выканаўчых тонкасцяў даводзілася дакопвацца самому. Перыяд «жалезнай заслоны» даваў свае вынікі: унутрана, інтуітыўна мы адчувалі, што ёсць рэзервы, што можна граць лепш, але як гэта ажыццявіць на практыцы, было не зусім зразумела. Ужо на Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў, які адбыўся ў Маскве ў 1957 г., мы прыкмецілі, што і інструменты, і муштукі ў нас вельмі дрэнныя ў параўнанні з замежнымі. Там жа я зрабіў яшчэ некалькі назіранняў — мы розніліся з замежнымі музыкантамі і самой ігрой, манерай. У нейкім сэнсе гэта была «аб'ектыўная» акалічнасць, бо нас вучылі педагогі, чые творчыя прынцыпы былі цесна звязаны з традыцыямі вайскова-палкавой духавой музыкі... Праўда, не ўсе: тыя, хто прайшоў школу Марыінскага тэатра, былі педагогамі іншага складу (М. Буяноўскі, напрыклад). Словам, фарміраванне школы савецкай ішло, складаючыся з розных пластоў: прыйшлі людзі з рабфака, ваенных аркестраў, самадзейных калектываў... Інтэлектуальны ўзровень тых, хто прыйшоў вучыцца, значна адрозніваўся ад прыроды інтэлекту прафесароў, якія выкладалі ў той час у кансерваторыі. Я на сваёй вучобе адчуў вынікі гэтага прагалу...

**— Віктар Васільевіч, слухаючы вашы лекцыі ды развагі, я задаўся, можа, не зусім карэктным пытаннем: хто з абітурыентаў не паступае ў ваш клас? Бо я прысутнічаў на канцэрце вашых студэнтаў і адзначыў для сябе, што яны ж не без недахопаў і ім трэба яшчэ многаму навучыцца, у той жа час у ігры студэнтаў можна заўважыць ступені іх росту...**

— Я займаюся педагагічнай дзейнасцю ўжо 36 гадоў, праз мае рукі прайшло шмат хлапчукоў. Я ўпэўнены, што правільная паслядоўная метода навучання вельмі хутка можа даць добрыя вынікі. Многія схільныя думаць, што вось, маўляў, у Піцер едуць лепшыя абітурыенты адусюль. Нічога падобнага! Я працую і ў нашым філіяле — Петразаводскай кансерваторыі: двое з трох тамтэйшых маіх студэнтаў іграюць не горш, чым іх аднакурснікі ў Піцеры... Праўда, важная сама атмасфера, у якой «варацца» будучыя выканаўцы: стараемся, каб і яны прыязджалі ў Пецярбург на канцэрты... Важны таксама інтэлект. Я не маю на ўвазе інтэлект агульны, хутчэй — «прафесійна скіраваны». Самі ведаеце; адзін, як кажуць, хапае ўсё на ляту, а другому хоць штодня паўтарай — нуль. Вось да нас прыехала амерыканка вучыцца іграць на трубе. Я цікавіўся ў калегі, як яна? Прафесар адказаў: яна зусім інакш мысліць. Гэта не значыць, што яна вышэй па інтэлекце. Яна проста не можа быць безалабернай. Між іншым, ёй гэта каштуе 3000 долараў у год.

**— Паняцце «школа» накольні абстрактнае, настольні ж і канкрэтнае: амаль усе ведаюць што гэта такое, але авалодаць ёю могуць толькі тыя, хто непасрэдна вучыўся ў Пецярбурзе або ў Маскве — іншых «школ» на абшары былога Саюза пакуль няма! «Школай» немагчыма авалодаць тэарэтычна. Між тым для многіх гэтае паняцце не выходзіць за рамкі «правільнай ігры на інструменце»...**

— Калі мы зазірнём у заходнія метадычныя выданні, то першае, што кінецца ў вочы,— стыль. Не так яны напісаны — не па-нашаму...

**— Прасцей?**

— Дакладней. Яны не льюць столькі «вады». Вазьміце наш метадычны зборнік: чытаеш, чытаеш, а як адарваўся — і ўсё, так і не разумееш, што аўтар хацеў сказаць?.. Наогул характэрна для Захаду — у іх практыцызм на першым месцы, а ў нашых умовах усё больш «кругом да около», цягнемся да абстракцый. А наша ж спецыяльнасць дасканала канкрэтная! Практыка — першааснова. Тэорыя павінна несці дапаможныя функцыі, а не зацямняць мазгі студэнту... Самая лепшая парада і практычная, і тэарэтычная — не нашкодзіць. Прафесія наша настолькі тонкая, далікатная, што можна ў адну хвіліну зрабіць з выканаўцы інваліда. Уся спецыфіка музыканта-духавіка грунтуецца на безумоўных і ўмоўных рэфлексах, і калі іх парушыць — бяда, потым практычна немагчыма наладзіць іх дзейнасць. Таму я і на сустрэчах з выкладчыкамі вучылішчаў, музшкол звяртаю ўвагу на гэта. Калі правільна ўсё паставіць на першых уроках, справа пойдзе, як па масле! А перастройваць потым вельмі цяжка.

**— Мне здаецца, што ў атмасферы Санкт-Пецярбурга змаганне з праблемамі прыносіць толькі карысць, дапамагаючы зберагчы традыцыі, трымаць высокі выканаўчы ўзровень. На Беларусі ж, відаць, неабходна дасягнуць новага якаснага ўзроўню, каб прарваць замкнёнае кола праблем. Ваша думка?**

— Я лічу, што гэта праблема найперш чалавечая. Многае залежыць менавіта ад чалавечых якасцяў педагога, яго стаўлення да сваёй работы. Нам уласціва часцяком спасылацца на аб'ектыўныя ўмовы, шмат гаварыць, жаліцца. Не прывыклі мы і «выкладвацца» да канца на працы. Ну, само сабой, прафесіяналізм патрэбны. І яшчэ вельмі важна — вырашэнне спецыфічных праблем у комплексе агульных пытанняў развіцця музычнай культуры. На жаль, стэрэатыпам зрабіўся погляд на духавікоў як на прафесіяналаў больш нізкага гатунку. Відаць, не ад высокай гэта культуры. На Захадзе, дарэчы, музыканты-духавікі карыстаюцца вялікай павагай. Я прывозіў у Мінск на семінар відэакасету, і вы ж бачылі, як у Францыі адзначалі 60-годдзе знакамітага трубача Марыса Андрэ — гэта ператварылася ў нацыянальнае свята Францыі! А ў нас жа кожны можа прыкмеціць на першы погляд бясспрыўдныя дэталі, паводле якіх ужо можна адрозніць вучняў дзіцячых музычных школ: вось гэты хлопчык ці дзяўчынка — будучы піяніст або скрыпач, а вось гэты, па ўсім відаць,—духавік... Праблема, як бачыце, датычыць і агульнай атмасферы сям'і, школы і г. д.

Ёсць праблемы і ў вышэйшай педагогіцы. Звярну ўвагу на іх этычныя аспекты. Дух спаборніцтва, прычым накшталт «сацыялістычнага», аднойчы пранікнуў і ў педагогіку, у практыку ўсесаюзных конкурсаў... Ці ж гэта нармальна, калі, напрыклад, рыхтуецца праграма будучага конкурсу, а нашы прафесары не могуць распрацаваць нейкія агульныя крытэрыі аб'ектыўнай ацэнкі выканання?

**— Кажуць, на Захадзе існуе паняцце эталону спявацкага голасу, дасягнуць якога імкнуцца спевакі-прафесіяналы. Ці можна гаварыць пра нешта падобнае ў нашай спецыяльнасці? Не сакрэт, што большасць нашых духавікоў вяртаецца з міжнародных конкурсаў ні з чым. Вось і мой студэнт-тубіст быў на конкурсе ў Жэневе, і двое маскоўскіх студэнтаў, — вынік той самы. Як правіла, ім робяцца заўвагі накont культуры гучання, тэмбравай эстэтыкі, стылёвых асаблівасцяў...**

— Што датычыць эталонаў, у духавікоў з гэтым складана. Кожная школа мае асаблівасці. Тое, што ў французаў лічыцца абавязковым, у немцаў, напрыклад, не знойдзеце зусім. Ёсць і некалькі ўзроўняў: еўрапейскі, сусветны (напрыклад, той жа Марыс Андрэ). Браць прыклад з выканаўцаў такога ўзроўню — гэта нават абавязкова. Вядома, мы павінны захаваць і развіваць лепшыя якасці нашых айчынных школ, але ж, я лічу, не трэба быць і такімі ўжо цвёрдалобымі, пераносячы ў гэтую сферу адгалоскі старых ідэалагічных аспектаў. Трэба калі-нікалі прыслухацца да людзей з іншых культур, дзе духавыя інструменты пачалі сваю гісторыю, дзе захаваны спрадвечныя традыцыі. Многія музыканты маюць шмат добрых запісаў замежных выканаўцаў — трэба іх слухаць і самім, і разам са студэнтамі. І — паўтаруся — усё трэба пачынаць з педагогаў: такія высновы я зрабіў пасля нашага мінскага семінару. Ніхто гэта за вас не зробіць. Ёсць шмат таленавітых хлапчукоў на Беларусі — трэба іх знаходзіць і займацца з імі.

Я лічу, ва ўсім вінаватая традыцыйная інертнасць, абыякавасць у стаўленні да ўсяго, што адбываецца вакол нас. Хоць бы вось наш семінар: студэнтаў БДК я амаль не бачыў. А пастараўся ж зрабіць усё магчымае, каб было цікава: прывёз многа запісаў, у тым ліку і відэа, можна было атрымаць адказы практычна на ўсе пытанні і г. д.

**— Відаць, многія палічылі, што курсы выключна для трамбаністаў...**

— Дарэмна. Сам я імкнуўся не прапускаць цікавыя мерапрыемствы. Вось былі ў нас саксафаністы з ЗША, прафесар са сваімі студэнтамі. Для мяне

**ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР**

# «ЗАХАВАЦЬ ТЭАТР—СПРАВА ГОНАРУ...»

**Жорсткія законы рынкавых адносін паставілі на першы план у мастацтве камерцыю; сцэнічныя і канцэртныя пляцоўкі запаўняюцца відовішчамі досыць нізкага мастацкага ўзроўню, якія быццам бы толькі і могуць задаволіць крайне непераборлівыя густы цяперашняй публікі. Пры гэтым кажуць, што такі працэс заканамерны для нашага часу — часу ўсеагульнага распаду, рэзкай змены каштоўнасцей і ідэалаў. Але як тады растлумачыць тое, што менавіта цяпер, нібы да глытка жывой вады, людзі цягнуцца да класікі, да высокага мастацтва! Як, напрыклад, зразумець прычыны нязменнай любові публікі і поспеху, што спадарожнічае выступленням беларускага балета, спектаклі якога зусім нельга параўноўваць з прадстаўленнямі «на патрэбу дня»!... Мы гутарым з галоўным балетмайстрам ДАВТа Беларусі, народным артыстам СССР Валянцінам ЕЛІЗАР'ЕВЫМ.**

**— Валянцін Мікалаевіч, мінула ўжо амаль 20 гадоў з таго дня, як вы ўзначалілі беларускі балет. Вашы спектаклі, пастаўленыя па творах сучасных аўтараў, вызначылі творчае аблічча трупы. Якую тэму можна назваць сучаснай цяпер?**

— Гэта тыя тэмы, якія хвалююць усіх. Яны актуальныя для любой эпохі: жыццё і смерць, любоў і нянавісць, злачынства і пакаранне, вернасць і здрада...

**— Апошнім часам вы часта звяртаецеся да класічнага рэпертуару. Як суадносяцца ў вашай творчасці традыцыі харэаграфіі і сучаснасць?**

— Незалежна ад таго, да твора якой эпохі звяртаюся, я заўсёды пакідаю за сабой права на мастацкую інтэрпрэтацыю. Я магу ўзяць для пастаноўкі музыку XIX стагоддзя, але я чалавек сённяшні, і таму ў яе будуць укладзены сённяшнія думкі і пачуцці. Мінулае можна ацаніць толькі праз прызму сучаснасці. Цяпер рыхтуецца да пастаноўкі канцэртная праграма, у якой будуць выкарыстаны творы кампазітараў розных эпох: Вівальдзі, Барбера, Альбіоні, Свірыдава, Пракоф'ева. У гэтым канцэрце музыка будзе раскрыта як сімфанічны танец. Я хачу прасачыць ніці, якія звязваюць класіку і сучаснасць, культуры розных эпох. Сімвалічна абагульненая пластыка сучаснай харэаграфіі вельмі блізка класічнаму танцу, хоць на першы погляд гэтыя паняцці здаюцца несумяшчальнымі. Аднак успомніце «Цені» з балета «Баядэрка» — гэта абстрактны танец і абсалютна сучасны!

**— Валянцін Мікалаевіч, вядома, што добры спектакль атрымліваецца ў тым выпадку, калі ёсць ансамбль пастаноўшчыкаў: балетмайстра, дырыжора, сцэнографа. Ужо класічным прыкладам такой творчай садружнасці сталася ваша праца з Яўгенам Лысыкам... Каму цяпер давярае тэатр сцэнаграфію балетных спектакляў?**

— Яўген Лысык, вялікі майстар, пайшоў з жыцця. Эрнст Гейдэбрэхт, таксама яркі мастак, з'ехаў да сваякоў у Германію. Так што тэатр часова існуе без галоўнага мастака. Я вяду актыўны пошук. А пакуль для пастановак запрашаюцца Вячаслаў Окунеў і Тэймураз Мурванідзе з Кіраўскага тэатра ў С.-Пецярбургу. Аднак трэба выхоўваць свае нацыянальныя кадры.

**— Так, гэта праблема... А як вы вызначылі б цяпер уласную творчую праграму?**

— Я стараюся развіваць наш тэатр у трох якасцях. Па-першае, гэта стварэнне нацыянальнага балета з арыгінальным рэпертуарам, заснаваным на творах беларускіх кампазітараў. Па-другое, апора на класічныя традыцыі. Гэтыя спектаклі карысныя для артыстаў і іх любіць публіка. Гарманічнасць і прыгажосць класічнага танца дае гледачам вялікую эстэтычную асалоду. І, нарэшце, трэцяе: засваенне сучаснай харэаграфіі. У тэатры павінна быць прадстаўлена заходнееўрапейскае мастацтва, у якога высокі прафесійны і мастацкі ўзровень. Хочаце прыклады? Калі ласка. Нядаўна мы выпусцілі «Карсара». Гэта класіка. Наступны спектакль, які рыхтуецца да пастаноўкі, — «Анафема» («Рагнеда») А. Мдзівані. Сучасны рэпертуар будзе прадстаўлены балетам «Ундзіна» на музыку нямецкага кампазітара Хейнца. Яго паставіць швейцарскі балетмайстар Ален Бернар.

**— А публіка — як вы лічыце, ці змянілася яна?**

— Мне вельмі радасна, што наш балет з'яўляецца любімым мастацтвам у Мінску; з нашай творчасцю знаёміцца публіка і ў час паездак па рэспубліцы. За доўгія гады існавання тэатра змянілася некалькі пакаленняў артыстаў, склаліся свае традыцыі. Нам удалося выхаваць пакаленне гледачоў, якія любяць балет.

**— Валянцін Мікалаевіч, апошнім часам ваша глядацкая аўдыторыя значна пашырылася: калектыў часта выязджае за мяжу на гастролі. Што гэта дае артыстам?**

— Не сакрэт, што выезды за мяжу дазваляюць атрымліваць ганарары, якія адпавядаюць майстэрству артыстаў і высокаму сусветнаму прэстыжу балетнага мастацтва. Салісты атрымліваюць магчымасць пазнаць сабе сапраўдную цану, а значыць, адкрываюцца новыя магчымасці для прафесійнага росту. Але важна і іншае: наша трупа прадстаўляе за мяжой беларускую культуру, шчыра кажучы, мала вядомую там.

**— Якая ж публіка на Захадзе?**

— Гэта высокаадукаваныя і інтэлігентныя людзі, якія ўмеюць па вартасці ацаніць сапраўднае мастацтва. Напрыклад, у Лондане на працягу года выступаюць каля 20—30-ці першакласных балетных труп з усяго свету, ідзе пастаянны творчы абмен. Мы ж знаходзімся ў сапраўднай ізаляцыі. Тым больш, што і гастролі замежных тэатраў у рэспубліцы — вялікая рэдкасць.

**— Ці не «садзейнічае» гэтаму працэс узвядзення мытных бар'ераў і дзяржаўных межаў, які актыўна ідзе паміж незалежнымі рэспублікамі на тэрыторыі былога Саюза?**

— Мне гэтая дзяльба ў дачыненні да мастацтва наогул незразумелая. Мастацтва, як вядома, не можа існаваць толькі ў вузканацыянальных рамках, без пастаяннага ўзбагачэння і ўзаемнага абмену з культурамі іншых народаў. Напрыклад, раней я мог сесці ў машыну і з'ездзіць у Вільнюс, каб паглядзець выступленні трупы Бежара. Цяпер жа, з магчымым увядзеннем візаў, творчыя кантакты робяцца вялізнай праблемай. А між тым мы не павінны забываць у сваім імкненні да нацыянальнага самавызначэння, што ўсе суверэнныя дзяржавы ў галіне харэаграфіі выраслі з рускай класічнай школы балета. Гэтыя карані і сувязі не павінны губляцца ў міжнацыянальным падзеле.

**— Валянцін Мікалаевіч, у мяне пытанне, якога ў цяперашні час пазбегнуць немагчыма. Якія праблемы ўзніклі ў калектыве з пераходам эканомікі на рынкавыя «рэйкі»? Ці ўплываюць яны на творчасць?**

— З творчымі праблемамі мы справімся самі, на тое мы і прафесіяналы. Аднак новая эканоміка вымагае і новага

ён нічога новага не паведаміў, але... Няма розных паняццяў у музыкантаў, хоць яны жывуць у Амерыцы ці ў былым Саюзе. І цяжкасці прафесійныя — тыя самыя. Мы знайшлі пра што пагаварыць, падыскутаваць з прафесарам...

У нас асноўная праблема сёння — сапраўдныя педагогі, а не намінал-прафесар. Патрэбен і добры «матэрыял», але ж мы практычна не аналізуем сітуацыі, калі студэнт чагосьці дасягае толькі за кошт таго, што прафесар затрачвае на яго больш, чым трэба было б пры адпаведнай зацікаўленасці студэнта...

**— Здаецца, замкнёнае кола?**

— Згодны. Увесь Захад ужо даўно перайшоў на сістэму семінараў, падобных наладжанаму ў Мінску, і не шкадуе на гэта грошай. Чаму? Таму што семінарская сістэма дае хуткія вынікі, канечны прадукт. «Там» няма такіх конкурсаў, як нашы ўсесаюзны, усерасійскі, якія, я лічу, сябе вычарпалі. Вядома, трэба цягнуцца да міжнароднага ўзроўню, уключаць навінкі «іхняга» рэпертуару, але асноўныя творы павінны прыносіць карысць студэнту ў працэсе падрыхтоўкі да конкурсу, а не шкоду.

І яшчэ: пакуль не будзе наладжаны абмен інфармацыяй, няма чаго чакаць добрых вынікаў. Сістэма семінараў, даўно прызнаная ва ўсім свеце, прыносіць вялікую карысць, таму не трэба прыдумваць веласіпед — трэба прыстасаваць яе да нашых умоў. Наконт гэтага і адбылася ў нас гаворка з дырэктарам Беларускага інстытута праблем культуры Уладзімірам Паўлавічам Скараходавым. І ён сказаў, што інстытут сур'ёзна ставіцца да праблем выканальніцтва на духавых інструментах, педагогікі ў гэтай галіне, ёсць і пэўныя сродкі для арганізацыі курсаў вышэйшага майстэрства на належным узроўні. Я вітаю такую пазіцыю і выказваю сваю згоду на далейшае супрацоўніцтва з Беларуссю.

**— Мне ад імя ўсіх прадстаўнікоў «духавенства» Беларусі застаецца шчыра падзякаваць вам, Віктар Васільевіч, за ўдзел у першым семінары за цікавыя лекцыі, інфармацыю а таксама за інтэрв'ю.**

**Пятро ДУДАРЭНКА,**
**артыст аркестра ДАВТа Беларусі.**

---

стаўлення да мастацтва. Неабходны беларускія прафесійныя менеджэры і імпрэсарыю, неабходны спонсары, якія прапагандавалі б балет і ўкладалі б у яго грошы. Пакуль жа нашы паездкі за мяжу фінансуюцца замежнымі фірмамі і банкамі. Перш за ўсё, банк «American Express», германская фірма «BMW», выдавецтва «Media Transasia Ltd», «Thompson Press Ltd». На жаль, я магу з поўнай адказнасцю сказаць, што грошы цяпер вырашаюць усё. Страшна падаражэлі пастаноўкі, практычна немагчыма дастаць тканіны на касцюмы. Мы вымушаны купляць іх за валюту. І гэта толькі відавочныя праблемы. Калі ўрад не знойдзе дастатковыя сумы на фінансаванне тэатра, то будзе згублена ўсё, што стваралася доўгімі гадамі творчай працы.

Ва ўсім свеце музычныя тэатры знаходзяцца на датацыі дзяржавы. Пра цывілізаванасць любой краіны мяркуюць па яе оперы і балеце — тэатры, дзе ажыццяўляецца небывалы сінтэз мастацтваў, кожнае з якіх уяўляе сабой самастойную мастацкую каштоўнасць. Такі тэатр — гэта нацыянальны здабытак, і ўтрымліваць яго на належным узроўні — справа гонару для рэспублікі.

**— Заканчваючы нашу гаворку, я хачу закрануць праблему захавання беларускай культуры. У рэспубліцы ствараецца музей тэатра і музыкі...**

— Я вітаю гэты факт; гэта добрая ідэя, якую даўно трэба было ажыццявіць. Буду памагаць музею матэрыяламі.

**— Дзякую вам за інтэрв'ю і зычу вялікіх творчых поспехаў.**

**Таццяна ВАЛАЧКОВІЧ.**

---

# Мы жывём, каб заўтра?..

## Адкрыўся тэатр-лабараторыя нацыянальнай драматургіі

Аднойчы па расійскім канале тэлебачання выступаў свяшчэннік, які вельмі пранікнёна гаварыў пра духоўнае і вечнае. А літаральна праз некалькі хвілін на экране з'явілася модная рок-група і ў эфір выбухнула песня, рэфрэнам якой былі словы: «Мы жывём для таго, каб заўтра здохнуць». Уразіла парадаксальная кантрастнасць дзвюх тэлеперадач. Міжволі падумалася: колькі гучных слоў прагучала апошнім часам пра занепад духоўнасці і неабходнасць яе адраджэння. І, разам з тым, колькі атруты штодзённа абрушвае на чалавека радыё і тэлебачанне, кінематограф і тэатр! Здаецца, можна было б толькі радавацца таму, што дэідэалагізацыя ўсіх сфер нашага жыцця раскрыла перад творцамі неабсяжныя магчымасці звярнуцца нарэшце да спрадвечнай мэты мастацтва— чалавека і яго душы. Аднак практыка нашых тэатраў, на жаль, сведчыць — праблемы маральнасці і духоўнасці па-ранейшаму тонуць у гразкай плыні палітыканства і адкрытай камерцыялізацыі.

Можа, таму мяне так прывабіў спектакль «Ку-ку», якім распачаў свой першы тэатральны сезон Тэатр-лабараторыя нацыянальнай драматургіі «Вольная сцэна», што прымусіў зазірнуць у глыбінныя таямніцы чалавечай душы?..

Я даўно сачу за творчасцю М. Арахоўскага, і яго п'есы падаюцца мне з'явай цікавай і неардынарнай у беларускай драматургіі. Калі паспрабаваць намацаць ланцужок пераемнасці, то жанрава і сутнасна яна выяўляецца не столькі ў працягу нацыянальнай драматургічнай традыцыі, колькі ў блізкасці да народнай творчасці, якая заўсёды жывілася буйной фантазіяй і мудрымі законамі хрысціянскай маралі. Што ж датычыцца структуры яго п'ес, іх формы, то яны ў нечым набліжаюцца да еўрапейскага тэатра абсурду, у прыватнасці, да твораў польскіх аўтараў С. Віткевіча, Т. Ружэвіча, С. Мрожака.

М. Арахоўскі свядома разбурае сюжэтную канву п'ес. Іх дзеянне гранічна сімвалізавана, пазбаўлена канкрэтыкі, вылучана ў надпобытавую прасторавую плоскасць. Дынаміку яго драматургічных твораў вызначае не рух канфлікту, а зменлівасць унутранага стану чалавека, які знаходзіцца ў пастаянным канфлікце з самім сабою. Заўважаецца і запазычанасць такога аўтарскага прыёму, калі матэрыялізуецца сама хада думак герояў, іх падсвядомасць.

Разам з тым існуе і значная розніца, абумоўленая самастойнасцю творчых пошукаў М. Арахоўскага. Так, у п'есе «Белы шлюб» Т. Ружэвіча фантасмагарычныя сны Біянкі высвятляюць ідэю ўнутранай раздвоенасці кожнай чалавечай асобы, дзе шчыльна пераплецены дабро і зло, нізкія страсці і ўзвышанае імкненне да гармоніі і чысціні. Персанажы С. Мрожака Пан I і Пан II («Стрып-тыз»), А. А. і Х. Х. («Эмігранты»), пазбаўленыя нават прозвішчаў, наадварот, уяўляюць сабой нібы дзве іпастасі адной чалавечай асобы ў яе добрых і благіх праяўленнях. Пры гэтым благое і добрае існуе ў кожным з іх не ў чыстым выглядзе, а хутчэй у ледзь прыкметных хістаннях да сваёй супрацьлегласці.

У п'есе «Ку-ку» М. Арахоўскі прапануе свой варыянт раздваення чалавечай асобы на ўзроўні падсвядомасці, калі матэрыялізацыя думак галоўнага героя Вадзіма нараджае пачварнага двайніка Супермэна (ён самы Падушкападобны), які выходзіць з-пад кантролю таго, хто яго спарадзіў. Наогул Вадзім у спектаклі адвольна рэжысіруе ўсё, што адбываецца на сцэне. Па яго прыхамаці з'яўляюцца і знікаюць персанажы, якія, як акцёры на рэпетыцыі, па некалькі разоў праігрываюць адзін і той жа эпізод, мяняючы тэкст і сэнсавыя акцэнты.



Сцэна са спектакля «Ку-ку». Фота Ул. КРУКА.

Такі драматургічны ход дакладна рэалізуецца ў сцэнаграфіі мастака У. Осіна і рэжысуры А. Гузія. На сцэне — звычайны пакой, які сваім інтэр'ерам нагадвае хутчэй закулісную частку тэатра, чым кватэру жылога дома. Нібы тэатральныя фіранкі апускаюцца са столі шматкі белай тканіны, драпіраваныя адмысловымі складкамі. Бутафорскай прыладай выглядае вялікі гадзіннік са спыненымі стрэламі і пераблытанымі знакамі на лічбоўніку. Раз-пораз высвятляецца празрыстая задняя сценка, і тады, як у булгакаўскай кватэры № 50, прастора пакоя нечакана пашыраецца, утвараючы імправізацыйную сцэну.

Вадзім (І. Дзянісаў) і яго жонка Ларыса (Т. Пузіноўская) у рэальным плане ўяўляюць сабой банальны прыклад сучаснай сям'і. Ён — закамплексаваны, не хапае зорак з неба, адным словам, няўдаліца. Яна — прыгожая, упэўненая ў сабе, раскутая, пазбаўленая сентыментаў. Вадзім апантаны рэўнасцю, бо лічыць, што Ларыса здраджвае яму. Не здольны змяніць абразлівую і двухсэнсоўную сітуацыю, ён шукае выйсця... у трызненні.

Так уваходзяць у дзеянне персанажы-прывіды: чыстая, цнатлівая Алена (А. Забара), крыху абмежаваны, затое надзейны Косця (А. Гарцуеў), недарэчна камічны Яўген Мікалаевіч (В. Кастальцаў), усюдыісны памаўза Супермэн, ён жа Падушкападобны, ён жа Ку-ку (У. Кін—Камінскі).

Вадзім—Дзянісаў, ствараючы новыя і новыя жыццёвыя калізіі, імкнецца набыць страчаную раўнавагу, самасцвердзіцца, пагуляць у высакародства. Але ён не здольны змяніць сваю сапраўдную натуру, перайначыць ходу сваіх думак. Там, дзе герой спыняецца напаўшляху, яму «дапамагае» двайнік Супермэн. І спраўджаныя фантазіі раскрываюць глыбінную існасць яго патаемных памкненняў.

Вось Вадзім—Дзянісаў, быццам Пігмаліён, удыхае жыццё ў Алену. Яго ўяўленне стварае ідылічную карціну — у водбліску свечкі пяшчотна, замілавана прыхінаецца да яго каханая. Аднак чароўную казку парушае Косця — Гарцуеў. Ён пагражае і патрабуе пакінуць дзяўчыну ў спакоі, не перашкаджаць яе шчасцю. Вадзім робіць выгляд, што згаджаецца, і ў тую ж хвіліну пачынае абразліва здзекавацца з саперніка. Калі ж набліжаецца Алена, ён ужывае самы подлы прыём — прыкідваецца параненым, абуджаючы ў дзяўчыне спачуванне да сябе і пачуццё нянавісці да свайго крыўдзіцеля.

Каб кампенсаваць сваё мужчынскае чалавечае банкруцтва, Вадзім прымушае Супермэна паўтарыць гэту сцэну. З веданнем справы герой У. Кін-Камінскага спачатку збівае Косцю, а потым і забівае яго. Вадзім з жахам назірае, як дзеецца злачынства, і нават імкнецца спыніць двайніка. Але ў яго нічога не атрымліваецца, таму што Супермэн выконвае яго волю, рэалізуе яго патаемныя жаданні. Вадзім па-ранейшаму чапляецца за Алену, як за адзіны ў жыцці паратунак. Калі ж ён разумее, што ідэал выслізгвае з рук, ён ганьбіць яго, забруджвае і ў рэшце рэшт знішчае. Абыякава назірае Вадзім—Дзянісаў за тым, як Супермэн — яго другое «я» — пажадліва і цынічна гвалціць дзяўчынку, зневажае яе чалавечую годнасць. Так, Вадзім, у думках сваіх пераступіўшы апошнюю мяжу, ператвараецца ў здрадніка і забойцу.

Рэжысёр А. Гузій адчуў адметнасць аўтарскага мыслення М. Арахоўскага і знайшоў адпаведны сцэнічны эквівалент ускладнёнай стылістыцы драматургічнага твора. Пры плённай дапамозе В. Разладава ў спектаклі вынаходліва вырашана пластычная характарыстыка персанажаў, рытміка асобных сцэн. Так, Алена (А. Забара) спачатку нагадвае застылую ў нерухомасці ляльку-прынцэсу, якая раптам прачынаецца ад чарадзейнага сну. А. Гарцуеў (Косця) і В. Кастальцаў (Яўген Мікалаевіч) пераважна абыгрываюць фактуру сваіх герояў, разумеючы іх функцыянальнасць. Непадобнай, шматпланавай паўстае Ларыса Т. Пузіноўскай. Яна то рэзкая, калючая ў сварках з Вадзімам, то гнуткая, вытанчана - спакуслівая ў сцэнах з Яўгенам Мікалаевічам, то прасветленая, адухоўленая ў марах аб дзіцяці, то адчужанавідушчая ў вобліку Клеапатры.

З бляскам вядзе сваю ролю У. Кін-Камінскі. Яго герой віртуозна балансуе на мяжы рэальнага, верагоднага і ірэальнага, містычнага. Выканаўца знаходзіць шмат адценняў у выяўленні адметнасці Падушкападобнага і Супермэна. Ён то здзекуецца, іранізуе са свайго другога «я», то ператвараецца ў жорсткую, агрэсіўную істоту, здольную без ваганняў выканаць самы цьмяны імпульс-пажаданне двайніка.

А вось галоўны персанаж Вадзім, на маю думку, не да канца рэалізаваны ў выкананні І. Дзянісава. Часам акцёр залішне мітусіцца, фарсіруе голас, пераходзіць на крык, што ў сваю чаргу здрабняе вобраз, пазбаўляе яго драматызму. Можа, таму не зусім лагічна выглядае і фінал спектакля. Вадзім — Дзянісаў раптам адчуўшы ўсю бездань свайго падзення, курчыцца на падлозе, укленчыўшы, моліць Бога дапамагчы зразумець, у чым яго віна, і дараваць яму. Аднак такое шчырае пакаянне героя не падрыхтавана ўсім папярэднім развіццём характару і таму выглядае ў пэўнай ступені штучным.

Голас Ларысы, якая прыспешвае мужа хутчэй збірацца на юбілей Яўгена Мікалаевіча (дарэчы, гэтай жа сцэнай пачынаўся спектакль), вяртае Вадзіма ў звыклую будзённасць. Ён марудна ўзнімаецца, нібы пазбаўляючыся прывідаў жудаснага сну. А з-за празрыстай заслоны з ім моўчкі развітваюцца героі, створаныя яго фантазіяй.

Якім будзе далейшы лёс Вадзіма? Зрушыцца што-небудзь у яго свядомасці, абудзіцца яго сумленне? Ці і надалей будзе ён гібець у граху, марнуючы сваё жыццё? Фінал спектакля застаецца адкрытым. Аднак надзею даюць словы Вадзіма: «Не саграшы нават у думках сваіх». Бо не толькі дрэнныя справы, брудная лаянка, а нават маланкай прамільгнуўшая цьмяная думка альбо нядобры позірк здольны пагасіць святло душы, прывесці да самаразбурэння асобы. Невыпадкова эпіграфам на праграмцы спектакля стаяць словы Евангелля паводле Мацвея.

**Тамара ГАРОБЧАНКА.**

---

**ДУМКА ЧЫТАЧА**

# НА АПОШНІМ МЕСЦЫ...

Лічу тэлебачанне найпершым сродкам не толькі інфармавання, але і «акультурвання», «ідэалагізацыі», пэўнай асветы і да т. п. Па моцы ўздзеяння адначасова на дзесяткі мільёнаў людзей з ім не можа параўнацца нішто іншае. І вось узнікае пытанне: чаму такі моцны сродак інфармацыі знаходзіцца на апошнім месцы ў Адраджэнні Беларусі? Чытаць кніжкі, хадзіць на выстаўкі, займацца музыкай не могуць і не хочуць многія людзі, а глядзяць тэлевізар амаль усе. Чаму ж не выкарыстаць гэта ў мэтах Адраджэння?

Вы скажаце, што вопыт ёсць ужо і ёсць нейкія дасягненні. І я буду з вамі нязгодны. Усё вызнаецца ў параўнанні. А параўноўваць БТ мы можам толькі з былым цэнтральным тэлебачаннем ды з цяперашнім расейскім. Але ж якія там параўнанні... Усе высілкі тутэйшых тэлевізійнікаў зрабіць нейкія «збіткі» з маскоўскіх праграм (накшталт «Взгляда») варты жалю... Маскоўскае тэлебачанне тым часам на месцы не стаіць, і калі цяпер яно вышэй за БТ на галаву, дык і заўтра большыню беларускіх тэлегледачоў нічым не адцягнеш ні ад «Поля чудес», ні ад АТВ (чым, дарэчы, — кіслымі расповядамі вакол Максіма Багдановіча ці саладжавым рэдзівам кашы з фільмаў сталінскай часіны?). Думаю, БТ мусіць пачаць са стварэння ўласнай Беларускай інфармацыйнай тэлевізійнай службы, якая б давала дакладную і тэрміновую інфармацыю пра падзеі ў рэспубліцы і свеце, ды падавала б яе з пункту гледжання насельнікаў Беларусі (ці з пунктаў — як каму падабаецца). Стварэнне забаўляльных і мастацкіх праграм не будзе танным, але менавіта праз гэтыя праграмы можна чакаць вялікага плёну. Не трэба ісці па адбітках расейскага тэлебачання, калькаваць папулярныя маскоўскія ды пецярбургскія перадачы. Калі рокеры і тэнэйджэры, бойскаўты ды меламаны, бізнесмены і эстэты, хрысціяне і крышнаіты, не кажучы ўжо пра ўсіх іншых людзей, маладых і не дужа, мецьмуць свае беларускія перадачы, дайце веры, мы іншымі словамі ды з іншымі інтанацыямі загаворым пра Адраджэнне...

**В. АЎРАМЕНКА.**

г. Магілёў.

